За работу ў мінулую суботу гомсельмашаўцы атрымаюць падвоены заробак.
Чытайце на 2-й стар.

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадо...
*Якуб КОЛАС*

№ 42 (4500)

26 мая 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

9 772071 964000 20042

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Пані Ярмошына чакае паветраных пацалункаў?

Падчас выбарчых кампаній старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына** традыцыйна становіцца медыйнай зоркай, ды такой, што могуць пазайздросціць некаторыя кандыдаты. Яе здымаюць у розных ракурсах, ёй задаюць мноства пытанняў. Вось толькі адказы нязменна навяваюць сум і паказваюць, што ЦВК стаіць сцяной на шляху да сумленных празрыстых выбараў.

У прыватнасці, раз за разам незалежныя медыі ставяць пытанне, чаму беларуская ўлада ўжо не першы год ігнаруе рэкамендацыі місій БДІПЧ АБСЕ па выніках назірання за выбарчымі кампаніямі, пры тым што сама ж гэтыя місіі і запрашае. Напрыклад, па выніках леташніх выбараў у Палату прадстаўнікоў назіральнікі АБСЕ сфармулявалі аж 32 рэкамендацыі, якія маглі б палепшыць выбарчы працэс. У прыватнасці, прапаноўвалася ўкараніць празрыстыя працэдуры падліку бюлетэняў, павысіць празрыстасць датэрміновага галасавання.

Падобнае пытанне прагучала і ў свежым інтэрв’ю БелаПАН. І што ж мы чуем ад спадарыні Ярмошынай? *“Калі вы сочыце за выступленнямі кіраўніка дзяржавы, то ён пра гэта казаў неяк, што спачатку трэба мяняць Канстытуцыю, а потым, натуральна, прыводзіць у адпаведнасць з ёй і выбарчае заканадаўства. Таму я думаю, што працэдура прыняцця [змен у Выбарчы кодэкс] адкладзена менавіта праз гэта, каб да бясконцасці яго не кроіць”*, – папулярна патлумачыла кіраўніца ЦВК.

Іначай кажучы, пераклала адказнасць на самага галоўнага беларускага начальніка. Маўляў, я маленькая сошка, што я магу? Між тым развагі **Аляксандра Лукашэнкі** пра меркаваныя змены Асноўнага закона пакуль што вельмі няпэўныя. У якія тэрміны гэта будзе рабіцца, віламі па вадзе пісана.

Але ж калі ўзяць норму, якая прадпісвала б участковым камісіям паказваць пры падліку галасоў кожны бюлетэнь, як гэта робіцца ў мностве дэмакратычных (і нават не вельмі дэмакратычных) краін, то хіба дзеля яе ўкаранення трэба абавязкова чакаць змены Канстытуцыі? Незалежныя юрысты падкрэсліваюць: дазволена ўсё, што не забаронена законам. А хіба закон забараняе паказваць бюлетэні? Проста ў камісіях не прывыклі гэта рабіць, не маюць адпаведных указанняў. Таму можна было б, як мяркуе, у прыватнасці, эксперт у пытаннях выбарчага заканадаўства **Сяргей Альфер**, проста прапісаць адпаведны парадак у нейкай пастанове ЦВК. Вось і ўсё. І не трэба чакаць, пакуль рак на гары свісне.

А тая ўпартасць, з якой улады адхрышчваюцца ад гэтай элементарнай прапановы, толькі згушчае падазрэнні тых, хто мяркуе, што падлік галасоў па-беларуску – мякка кажучы, нячыстая справа. Тым болей што ў выбарчых камісіях сядзяць скрозь свае для вертыкалі людзі.

Чаму ж апазіцыю практычна не ўключаюць у склад выбаркамаў? Адказ на гэта пытанне стаў яшчэ адным перлам згаданага інтэрв’ю. Паводле пані Ярмошынай, бяда ў тым, што *“ў нас у апазіцыю ідуць часцяком людзі азлобленыя, незадаволеныя”*. І калі яны прыходзяць у нейкі калектыў, то *“ствараюць вельмі цяжкую, нервовую абстаноўку”*. Таму, маўляў, іх і не ўключаюць у камісіі.

*“Тут справа абсалютна псіхалагічная. Калі ў нас зменіцца склад апазіцыі і яна ў нас стане сістэмнай, то бок там будуць не толькі тыя, хто адчувае сябе адрынутымі і незадаволенымі ўладай, а самыя розныя людзі, якія будуць прадстаўляць усё грамадства і, галоўнае, здолеюць працаваць у калектыве, тады і адпадзе само пытанне”*, – патлумачыла старшыня ЦВК.

Толькі мне вось здаецца, што справа тут не псіхалагічная, а чыста палітычная. І што мы бачым? Па-першае, фарміраванне выбаркамаў цалкам аддадзена на водкуп чыноўнікам. Прычым яны могуць сказаць “ад вінта!” толькі на той падставе, што чыйсьці характар не мёд.

Выбачайце, але ж гэта вы не гасцей на імяніны да сябе запрашаеце. Выбары – дзея грамадская. Па ідэі гэта акурат жорсткая барацьба палітычных сіл за ўладу. І кожная з гэтых сіл мае права адстойваць свае інтарэсы, у тым ліку і ў складзе камісій. Натуральна, не кулакамі. Калі ж апазіцыянер у камісіі псуе іншым камфорт, патрабуючы празрыстасці, поўнай справаздачнасці, то гэта яго законнае права, так і павінна быць пры дэмакратычным парадку рэчаў.

Па-другое, калі на тое пайшло, дык ці не таму беларуская апазіцыя не надта ўсмешлівая, што яе шмат гадоў ціснулі рэпрэсіямі, малацілі дручкамі? Гэта ў Брытаніі апазіцыя сядзіць у парламенце, а ў нас яна нярэдка сядзіць на нарах разам з рознымі алкашамі ды валацугамі.

Пасядзеўшы ж на сутках, сплаціўшы шалёныя штрафы, не надта будзеш радавацца. Але па вялікім рахунку апазіцыянеры і не павінны вам слаць паветраныя пацалункі, пані Ярмошына. Апазіцыя заўжды незадаволена тымі, хто ў гэты момант кіруе, гэта яе сутнасць нават у самых развітых, багатых дэмакратыях. Яна нідзе не бывае белай і пухнатай. А што, улада ў нас такая ўжо белая і пухнатая? Там усе з рахманымі характарамі, пяшчотнымі манерамі? Ага, паглядзіце тэлевізар.

І нарэшце, галоўнае. Паводле логікі старшыні ЦВК, спачатку апазіцыя мусіць стаць сістэмнай, то бок трапіць у той жа парламент, а потым ужо яе можна будзе пускаць у выбаркамы. Але ж як беларуская апазіцыя можа стаць сістэмнай, калі яе ўсяляк дыскрымінуюць, і ў прыватнасці не даюць кантраляваць падлік галасоў? Атрымліваецца заганнае кола.

Але гэтая замкнёная сістэма, гэтая чорная скрыня, што нязменна генерыруе “элегантныя” вынікі, відавочна выгадная цяперашнім кіроўным вярхам, бо гарантуе ім захаванне ўлады, кансервуе іх статус-кво. Вось і ўвесь адказ, астатняе – адмазкі.

SOS!

## В Беларуси умерли 204 человека с выявленной коронавирусной инфекцией и хроническими заболеваниями

За весь период распространения инфекции на территории страны зарегистрированы 37.144 человека с положительным тестом на COVID-19. Всего проведено 463.004 теста.

На 25 мая выздоровели и выписаны 14.449 пациентов, у которых ранее был подтвержден диагноз COVID-19.

За весь период распространения инфекции на территории страны умерли 204 пациента с рядом хронических заболеваний с выявленной коронавирусной инфекцией.

СЛЫШАЛИ?

## За Лукашенко уже собрали 200.000 подписей!

*Об этом он сам вчера сказал на совещании по актуальным социально-экономическим и политическим вопросам.*

«Признаюсь честно, что, несмотря на то, что я в общем контролирую ситуацию в стране (мне докладывают и о том, как идет этот политический предвыборный процесс), но как-то отошел я от предвыборной кампании, потому что не до этого было. Вы все видели, что была масса проблем, которые мы должны были решать. Их будет немало. И трудно будет мне включиться в этот предвыборный процесс. Хотя я думаю о том, что любая наша работа – это и есть предвыборный процесс», – сказал Лукашенко, обращаясь к главе Администрации президента Игорю Сергеенко и председателю Совета Республики Наталье Кочановой.

Как сообщает belta.by, Лукашенко попросил довести до всех должностных лиц следующий посыл: «Мы сдаем экзамен. Экзамен народу. И не только я. Но все мы, вся государственная система власти. И мы должны показать свою способность управлять государством. Люди должны сделать соответствующие выводы. На финише всегда надо бежать быстрее. Поэтому надо достойно провести этот финишный этап пятилетки. Так, чтобы люди понимали, с кем они имеют дело, и могли сравнить наши предложения с предложениями наших альтернативных кандидатов. Насколько я знаю, 15 групп собирают подписи. На сегодняшний день, меня информируют, в принципе, мы подписей собрали достаточное количество – под 200 тысяч. Но останавливаться не надо».

Лукашенко подчеркнул, что ставить подпись или нет – это право каждого человека. И в этом плане недопустимо какое-либо давление на людей: «Ни в коем случае, ибо это будет во вред.

Главный мой экзамен – это управлять страной, и чтобы люди видели, что есть президент в стране. Нельзя нам отвлекаться на митинги и разного рода заявления – гвалт какой-то. У нас нет времени на это».

СТОП-КАДР

## На Камароўцы збіралі подпісы і … пратэставалі

У мінулую нядзелю шмат людзей было не толькі ў гандлёвым павільёне сталічнага Камароўскага рынку, але і на пляцоўках, што прылягаюць да яго. Тут ініцыятыўныя групы Святланы Ціханоўскай, Валерыя Цапкалы, Віктара Бабарыкі арганізавалі пікеты па зборы подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Чарга жадаючых зафіксаваць сваё прозвішча ў падпісных лістах ураджвала. Дзеля гэтага нямала моладзі нават прыехала з розных рэгіёнаў Беларусі.

Уладзімір Няпомняшчых і Вольга Кавалькова, якім Цэнтральная выбарчая камісія таксама дазволіла збіраць подпісы ў сваю падтрымку, вырашылі гэтым не займацца. Але ў вызначаны час яны прыбылі на Камароўку і пазіцыянавалі сябе як непрымірымыя апаненты Аляксандра Лукашэнкі. Заўважым, ініцыятыўную групу Няпомняшчых узначаліў вядомы палітык Мікалай Статкевіч, які ўвесь час знаходзіўся побач з ім. Калі спантанна ўтварылася нешта падобнае на імправізаваны мітынг, Няпомняшчых выступіў адразу пасля Сяргея Ціханоўскага, які ачольвае ініцыятыўную групу жонкі. Ён заклікаў прысутных не ўдзельнічаць у выбарах, а байкатаваць іх, калі балатавацца будзе цяперашні кіраўнік дзяржавы. Такога меркавання прытрымліваецца і Вольга Кавалькова, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”, хоць, як вядома, байкатаваць прызначаныя выбары забаронена законам.

Святланы Ціханоўскай, якая, дарэчы, жыве ў Мінску, на Камароўцы не было. Таму ў цэнтры акцыі ўвесь час знаходзіўся яе муж Сяргей, які стаў вядомым блогерам за некалькі апошніх месяцаў.

Прадстаўнікі ініцыятыўных груп па зборы подпісаў у падтрымку Валерыя Цапкалы і Віктара Бабарыкі ў пратэстнай акцыі ўдзелу не бралі.

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Феномен Віктара Бабарыкі

Выбарчая кампанія толькі пачалася, аднак адразу выявіла вялікія нечаканасці. Упершыню з выбараў 2006 года на самым старце вызначыўся фаварыт кампаніі сярод апанентаў дзейнага кіраўніка. Гэта былы старшыня праўлення «Белгазпрамбанка» Віктар Бабарыка. Здаецца, тое стала нечаканасцю для ўсіх.

У пэўным сэнсе можна казаць пра феномен Бабарыкі. Пра тое, што гэта сапраўды феномен, сведчаць наступныя факты. Вось, напрыклад, у рамках праекта “Праймерыз”, арганізаванага правацэнтрысцкай кааліцыяй, у анлайн-галасаванні, якое цягнулася паўтара месяца, узялі ўдзел каля 5 тысяч чалавек. Другі прыклад. Кампанія “Гавары праўду” вядзе працу з насельніцтвам у рэгіёнах ужо дзесяць гадоў. Рэгулярна праводзяцца нейкія рэгіянальныя форумы, на якіх абмяркоўваюцца мясцовыя праблемы, частка з якіх вырашаецца. Але калі лідар арганізацыі Андрэй Дзмітрыеў фарміраваў сваю ініцыятыўную групу дзеля вылучэння кандыдатам ў прэзідэнты, то набралася толькі 2400 чалавек. Гэта за 10 гадоў працы.

А Віктар Бабарыка за тыдзень набраў праз сацыяльныя сеткі звыш 9 тысяч прыхільнікаў, гатовых збіраць за яго подпісы. Таксама ён хутка набірае рэйтынг, пра што сведчаць анлайн-галасаванні ў некаторых СМІ. Здаецца, з’явіўся адказ на культавае беларускае пытанне “Хто, калі не Ён?”.

З чым звязаны такі поспех? Ёсць некалькі прычын.

У палітыцы любы поспех з’яўляецца вынікам таго, што чалавек аказаўся ў патрэбны час у патрэбным месцы. Незадаволенне насельніцтва цяперашняй уладай і персанальна Лукашэнкам набыло такія памеры, што чаканне перамен проста вісіць у паветры. Сацыяльнае напружанне патрабуе нейкага выйсця. А тытульная апазіцыя празявала гэты момант, не адчула змены настрояў. Яна лічыла, што насельніцтва спіць, у грамадстве дамінуе фаталізм і апатыя. Таму і арыентавалася на байкот. Але байкот па самой сваёй прыродзе ёсць дэмабілізуючая ідэя. Таму апазіцыя ў гэтай кампаніі засталася на перыферыі выбарчага працэсу. А Віктар Бабарыка сваім вылучэннем трапіў у фокус грамадскіх чаканняў. І добра падышоў на ролю альтэрнатывы Аляксандру Лукашэнку.

Важную ролю адыграў той факт, што Віктар Бабарыка – чалавек новы на беларускай палітычнай сцэне. Бо грамадзе надакучылі прымільганыя палітыкі, за якімі стаяць адны паразы.

У Бабарыкі ёсць кіроўны досвед, што вельмі бракуе лідарам апазіцыі. Гэта вельмі важна, калі чалавек прэтэндуе на тое, каб кіраваць дзяржавай. Прычым гаворка ідзе пра досвед кіравання не партыяй ці грамадскай арганізацыяй, а буйной эканамічнай (у нашым выпадку фінансавай) структурай.

У “Фэйсбуку” на адрас Бабарыкі гучыць шмат закідаў з нагоды таго, што ён не апелюе да цвёрдага апазіцыйнага электарату, не вылучае лозунгі, якія звычайна гучаць у апазіцыйным асяроддзі. Але праблема Беларусі ў тым, што палітык, які арыентуецца на апазіцыйнае гета, не мае шанцаў на электаральную перамогу ў краіне.

Бабарыка прэзентуе сябе прадстаўніком “трэцяй сілы”, якая пазіцыянуе сябе пасярэдзіне паміж уладай і апазіцыяй. Ён апелюе да непалітызаванага абывацеля, да “маўклівай большасці”, якая хоча перамен, але баіцца радыкалізму і вострых канфліктаў. Таму яго рыторыка не радыкальная, вельмі асцярожная, умераная.

Яшчэ важна тое, што фігура Віктара Бабарыкі не павінна мець адрынання сярод кіроўнай наменклатуры. Бо ён для яе свой. 20 гадоў кіраваў адным з буйных беларускіх банкаў, супрацоўнічаў з вялікім колам чынавенства і вялікага бізнесу. Гэта важная акалічнасць у сістэме, дзе вынікі выбараў залежаць ад пазіцыі выканаўчай вертыкалі. Бабарыка прапануе не рэвалюцыю, а эвалюцыю, што прымальна для наменклатуры.

Дарэчы, я не зусім згодны з распаўсюджаным меркаваннем, што, маўляў, ён не дае адказу на пытанне, на што разлічвае, калі вынікі галасавання сфальсіфікуюць. Кандыдат дае адказ у сваіх інтэрв’ю журналістам. У перакладзе на зразумелую мову ён гучыць прыкладна так: калі яго падтрымае пераканаўчая большасць насельніцтва, то ўся лукашэнкаўская выбарчая машына пасыплецца, сістэма паваліцца, наменклатура падтрымае мацнейшага.

Можна, зразумела, сумнявацца ў слушнасці такой надзеі. Але яшчэ не было ў гісторыі беларускіх прэзідэнцкіх выбараў такой сітуацыі, каб апанент Лукашэнкі атрымаў электаральную перамогу, набраў больш галасоў, чым дзейны кіраўнік. На ўсіх папярэдніх выбарах Лукашэнка атрымоўваў калі не 50% галасоў, то відавочна больш, чым яго бліжэйшы сапернік. Пра гэта сведчылі даследаванні незалежных сацыёлагаў. І таму для выбарчых камісій, мясцовай вертыкалі не было вялікай праблемы напісаць пераможцу 80 працэнтаў замест, напрыклад, 40 ці 50, якія ён рэальна атрымаў. Усё роўна ж ён перамагае.

А вось як будуць паводзіць сябе выбарчыя камісіі, мясцовая наменклатура, спецслужбы ва ўмовах перамогі апанента Лукашэнкі, калі ў грамадстве адбудзецца псіхалагічны перазлом на яго карысць, ніхто не ведае. Бо такога яшчэ ніколі не было. На гэта і робіць разлік каманда Віктара Бабарыкі. І гэтым разам можа быць праведзены эксперымент, тэсціраванне ўстойлівасці існага рэжыму. У гэтым таксама палягае феномен гэтай палітычнай фігуры.

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

## В Беларуси будет новое правительство

*Его сформируют еще до президентских выборов*

«Мы всегда перед регистрацией кандидатом действующего президента объявляли новый состав правительства, до выборов», – *заявил вчера А.Лукашенко во время разговора с Натальей Кочановой, Игорем Сергеенко, Виктором Шейманом и Михаилом Ордой.*

«Это принципиальный вопрос. Чтобы люди видели, с кем мы будем работать. А не то, что выборы прошли, за тебя проголосовали, а ты там родственников, родных, любимых понапихал в это правительство, а это главный исполнительный орган… Поэтому нам нужно подготовить новый состав правительства. Решить по форме, как будет формироваться новое правительство до выборов», – *цитирует Лукашенко БЕЛТА.*

САЛІДАРНАСЦЬ

## Валерый Цапкала спадзяецца на падтрымку землякоў

Валерый Цапкала нарадзіўся ў Гродне, і яго вельмі многае звязвае з гэтым горадам. Вядома ж, ён разлічвае на актыўную падтрымку землякоў падчас прэзідэнцкіх выбараў. Першы этап – збор подпісаў. Днямі адбылася яго сустрэча на малой радзіме з прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы, якія будуць ладзіць пікеты, з тым каб як мага больш падпісных лістоў аказаліся запоўненымі.

**На здымку:** Валерый Цапкала з жонкай і членамі адной з гродзенскіх ініцыятыўных груп па зборы подпісаў у падтрымку яго вылучэння ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не пакідайце нас…

Цяжкія часы перажываем усе мы. Толькі разам можам разлічваць на лепшае жыццё. Таму, шаноўныя сябры, не пакідайце “Народную Волю” ні ў чэрвені, ні ў ліпені–снежні. Каму неабходна прадоўжыць падпіску на наступны месяц – яшчэ сёння гэта можна зрабіць, з заўтрашняга дня падпісацца зможаце толькі на другую палову 2020 года. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.

Ёсць таксама магчымасць аформіць падпіску на “Народную Волю” і не выходзячы з дома. Для гэтага трэба на сайце **belpressa.by** запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату **праз сістэму Webpay** банкаўскай карткай ці **праз сістэму «Расчет» (АРІП)**. У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка».** Для аплаты трэба ўвесці нумар рахунка, атрыманага на сайце **belpressa.by**. Зрабіце плацеж.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

СКАНДАЛ

# Чаму сябры руху «За Свабоду» збіраюць подпісы за банкіра Віктара Бабарыку?

*Некаторыя нават пахваліліся сваімі пасведчаннямі сябра ініцыятыўнай групы ў сацыяльных сетках, чым выклікалі неадназначную рэакцыю паплечнікаў. "Народная Воля" пацікавілася, як на гэту дзіўную сітуацыю рэагуе старшыня руху "За Свабоду", прэтэндэнт на прэзідэнцкае крэсла **Юрась Губарэвіч**.*



– Я ведаю, што шмат хто хваліцца атрыманнем пасведчання, і ўспрымаю гэта хутчэй як паход за сувенірнай прадукцыяй, – *пракаментаваў "Народнай Волі" паводзіны сяброў сваёй арганізацыі Юрась Губарэвіч.* – Вельмі шмат маіх знаёмых, не толькі сябры руху, пазапісваліся ў групы кандыдатаў, каб зрабіць калекцыю пасведчанняў. Аднак усе людзі, якія знаходзяцца ў цвярозым розуме, не ідуць зараз на нейкі збор подпісаў, тым больш на абход кватэр. Бо эпідэміялагічная сітуацыя ў краіне вельмі няпростая. Мы заклікаем падчас пікетаў забяспечваць дыстанцыю, карыстацца сродкамі біспекі, каб пазбегнуць распаўсюджвання каранавіруса.

**– Але вам не падаецца, што тут ёсць пэўны маральна-этычны момант: сябры руху "За Свабоду", маючы свайго кандыдата на прэзідэнцкую пасаду, збіраюць подпісы за банкіра, які фактычна з'яўляецца вашым канкурэнтам. Гэта ж цырк!**

– Паводле маёй інфармацыі, у групе Бабарыкі сёння ёсць прадстаўнікі амаль кожнай палітычнай арганізацыі, амаль кожнага кандыдата, якога вылучалі партыі. Думаю, людзі пайшлі атрымаць пасведчанні, каб потым было што ўнукам паказаць.

**– Ён плаціць за збор подпісаў?**

– Не ведаю. Але дакладна ведаю, што пераважная большасць сяброў маёй арганізацыі працуюць на маю каманду і тыя задачы, якія ставіцца перад імі па пікетах, па інфармацыйнай кампаніі, яны выконваюць. А тое, што яны возьмуць сабе для калекцыі гэта пасведчанне, хутчэй з'яўляецца праблемай не для мяне, а для таго кандыдата.

**Марына КОКТЫШ.**

ПОЛИТКУХНЯ

## Александр КОЗУЛИН:

# «Перемены будут, но не благодаря оппозиции...»

*Так считает экс-ректор Белгосуниверситета, экс-кандидат в президенты Беларуси Александр Козулин.*



**– Александр Владиславович, как ваши дела и здоровье в это непростое коронавирусное время?**

– Слава Богу, жив! На парады не хожу. Все средства антибактериальные ношу с собой, руки мою, дистанцию соблюдаю, маску там, где надо, ношу...

**– За президентской кампанией наблюдаете?**

– А что-то интересное разве?

**– Ну Цепкало, Бабарико, например. Некоторые называют их неожиданными кандидатами. Самостоятельными или нет – уже другой вопрос...**

– Вы же опытный журналист...

**– Я, кстати, недавно читала методолога, философа и телеведущего Владимира Мацкевича, который считает, что у экс-главы Парка высоких технологий на этих президентских выборах примерно такая же роль, как и у вас в свое время. Только, дескать, задача главным режиссером чуть другая поставлена. Да и вообще вас в последнее время часто вспоминают. Наверное, вы тоже видели большое интервью Александра Милинкевича, которое он дал Радио Свобода...**

– Все мнят себя такими великими и знающими! А самое главное – якобы располагают кучей фактов! И про «кураторов» каких-то моих всё знают, и про посольства, где я что-то якобы говорил...

**– Ну, про посольство – я допускаю, что вы могли быть в одной тусовке, кто-то что-то мог слышать... В конце концов, вы ведь могли и блефовать, рассказывая, что вас поддерживает Москва.**

– В 2005-м или в 2006 году, когда меня клеймили провластным и промосковским кандидатом, мне оставалось только пойти по европейским посольствам, чтобы меня окончательно похоронили! *(Смеется.)*

Не хочу я опускаться до уровня некоторых людей и что-то комментировать...

**– Александр Владиславович, вы последние годы ведете непубличный образ жизни, давно отошли от политики, крайне редко даете интервью и комментарии. Но сегодня вас все равно вспоминают!**

– Ну это точно не ко мне вопрос...

Есть такое понятие, как клевета. Пройдя через президентскую кампанию, я понял, насколько легко распускаются слухи, грязь... И я сознательно решил держаться от всего этого подальше.

**– Не жалеете о том, что в свое время решились пойти на президентские выборы?**

– Марина, это уже похоже на интервью, а интервью я не даю.

**– Я так поняла, что вы вообще не хотите возвращаться в прошлое, делать какую-то аналитику, выводы. Было и ушло.**

– Нет, я для себя выводы сделал – достаточно конкретные, четкие и понятные. Просто хотел уйти от той грязи, в которой очутился...

Помните, я когда-то сказал, что перемены будут, но не благодаря оппозиции? Так вот эти же слова я могу повторить и сейчас.

**– Значит ли это, что перемены будут связаны с теми же Бабарико и Цепкало?**

– Вначале надо посмотреть, как люди будут себя вести, с какой целью пошли на выборы, что сделали. И потом уже делать выводы. Сейчас слишком рано.

Могу сказать, что, когда смотришь на то, что происходит, со стороны, непредвзято, получается спокойная и взвешенная аналитика.

**– Как судья, наблюдающий за тем, что происходит на ринге во время боксерского боя?**

– Роль судьи не хотел бы примерять на себя. Скорее выступаю как независимый наблюдатель. Тем более я сам прошел через многие вещи и очень хорошо понимаю, что происходит и почему.

**– Вы сами на выборы пойдете? Я имею в виду не как главное действующее лицо, а как избиратель, на участок?**

– С 2006 года я на выборы не хожу. У нас нет честных и свободных выборов.

**Марина КОКТЫШ.**

АКТУАЛИИ

## Светлана КАЛИНКИНА

# Все в сад!

В моем личном рейтинге анекдотов этот – номер один.

Выползли два червяка из-под навозной кучи, лежат на солнышке, на голубое небо любуются. И вдруг червяк-сын задумчиво говорит:

– Папа, посмотри, как другие живут: кто-то в яблоневом саду, кто-то в абрикосовом, кто-то клубникой и малиной обжирается. А мы всегда в навозе...

Папа подумал немного и пополз назад в свою кучу:

– Сынок, давай за мной, потому что есть такое понятие – Родина!

Собственно, почти каждые белорусские выборы – это диалог про яблоневый сад и навозную кучу: про то, как мы могли бы жить и как живем. С властью, которая правит страной вот уже 26 лет, с порядками, которые она установила. Только и слышишь: по-другому нельзя, нас нигде не ждут, цените то, что имеете... Это лейтмотив каждой предвыборной кампании, в которой участвует Александр Лукашенко. И, выражаясь языком анекдота, мы, белорусы, раз за разом после каждых выборов заползаем обратно в свои «домики».

Уже первые презентации потенциальных кандидатов в президенты на нынешних выборах показали, что спор о том, на какую жизнь белорусы имеют право, будет особенно острым. Виктор Бабарико говорит, что он видит Беларусь европейской Швейцарией, Валерий Цепкало предлагает вариант развития по примеру Сингапура и лучших мировых образцов. Ну а Александр Лукашенко инспектирует фермы и осматривает ракеты по старому принципу: вдруг война, а я голодный. И, мне кажется, нет никакой надежды на то, что при нем война в головах когда-нибудь закончится. Что власть придет к простому пониманию: люди, экономика, государство должны жить, а не выживать.

Война в головах и у нашей традиционной титульной оппозиции. Сегодня многие накинулись на Бабарико и Цепкало так, будто эти кандидаты хуже, чем Лукашенко. Будто сейчас Беларусью правит нобелевский лауреат, образец ума и мудрости, а оппонировать ему решились двоечники-недоучки.

Давайте все-таки определимся, где мы хотим жить – в яблоневом саду или в куче навоза. И в оценке кандидатов будем исходить из этого.

Другое дело, что нет доверия к белорусским выборам. И в этом смысле надежды Цепкало и Бабарико на более-менее честный подсчет голосов выглядят откровенно наивными. Я даже допускаю, что они лично готовы презентоваться на выборах, принять результат, который объявит Лидия Ермошина и жить себе дальше своей не самой плохой жизнью. Но готовы ли к этому те, кто называет себя оппозицией и кто 25 лет бьется о стены политического гетто?

Лично у меня нет надежды на чудо и, соответственно, на эти выборы. Но я вижу, что именно эти выборы могут стать началом масштабной кампании по приближению серьезнейших перемен. В этом смысле и Бабарико, и Цепкало, и Тихановский, и Ковалькова, и Козлов, и Губаревич, и я, и тысячи других политических и общественных активистов должны работать на одно и то же. На то, чтобы белорусам, которые не представляют себе иной жизни, нежели в куче навоза, или уже не надеются пожить по-человечески, вернуть надежду и вернуть право голоса.

Выборами не только жизнь не заканчивается, но не заканчивается и политика. Как-то мы давно об этом позабыли.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Наталля Кісель – бізнесвумен з трыма вышэйшымі адукацыямі

*51-гадовая Наталля Кісель, якая вылучыла сваю кандыдатуру на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах, нарадзілася ў Мінску.*

Скончыла Беларускі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці "інжынер-механік", затым – Акадэмію кіравання пры Савеце міністраў Беларусі (менеджар-эканаміст). У 2005 годзе ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце атрымала ступень магістра эканамічных навук.

Дадаткова мае атэстацыю антыкрызіснага кіраўніка катэгорыі "В" у Дэпартаменце па санацыі і банкруцтве Міністэрства эканомікі.

З'яўляецца намеснікам дырэктара прыватнай кампаніі "Кісель В.В.", якая спецыялізуецца на грузаперавозках, і сябрам Асацыяцыі грузаперавозчыкаў "Рэгіён 8". Менавата гэтая арганізацыя прапанавала Наталлі Кісель балатавацца ў прэзідэнты і стварыла прыватны фонд, каб мець фінансы на перадвыбарную агітацыю. Яго папаўняюць грузаперавозчыкі.

Наталля Кісель у свой час адстойвала інтарэсы дробных грузаперавозчыкаў, вяла перамовы з прадстаўнікамі Міністэрства транспарту. Зараз яна ўваходзіць у грамадска-кансультацыйны савет пры Мінтрансе.

Кіраўнік передвыбарнага штаба – перавозчык **Сяргей Штода**, які таксама з'яўляецца старшынёй Асацыяцыі грузаперавозчыкаў "Рэгіён 8".

*"У нашай ініцыятыўнай групе 146 чалавек, – кажа Сяргей Віктаравіч. – Гэта ў асноўным перавозчыкі, якіх я добра ведаю і якім давяраю.*

*100 тысяч подпісаў назбіраць такой камандай абсалютна рэальна – прыкладна па тысячы подпісаў на сябра групы. Гэта прыкладна 30 подпісаў у дзень. А асабіста я за выхадныя ў сваім доме сабраў 200 подпісаў.*

*А ўвогуле на раніцу 25 мая сябрамі нашай ініцыятыўнай групы ўжо было сабрана каля 28 тысяч подпісаў. У асноўным нашы пікеты стаяць на трасах, дзе ездзяць грузаперавозчыкі. Ва ўсіх ёсць з сабой пашпарты, усе з задавальненнем падпісваюцца за нашага прэтэндэнта".*

Наталля Кісель у шлюбе з 1994 года. Муж – яе партнёр па бізнесе.

У сям'і двое дзяцей. Старэйшы сын працуе распрацоўшчыкам камп'ютарных гульняў. Дачка – спартсменка, заканчвае вучылішча алімпійскага рэзерву. Акрамя таго, працуе на паўстаўкі ў адным з дзіцячых дамоў Мінска.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТАЛО ИЗВЕСТНО

# Аккумуляторный завод под Брестом сменил собственника

*Аккумуляторный завод под Брестом ООО «АйПауэр» с 22 мая 2020 года выведен из-под контроля Группы компаний 1AK-GROUP. В ходе сделки была осуществлена продажа 100% долей в уставном фонде ООО «АйПауэр».*

После сделки завод получил новое наименование ООО «Аккумуляторный Альянс». Целью сделки является подготовка к вхождению в капитал завода крупного европейского холдинга. Новыми участниками общества ведутся переговоры с рядом европейских инвесторов.

Участниками ООО «Аккумуляторный Альянс» стали:

**Дмитрий Басков**, занимает должность Генерального директора ЗАО ХК «Динамо-Минск», входит в состав Совета директоров ЗАО «БСБ Банк». Ведет активную работу по привлечению спонсорских средств на развитие и поддержку детского хоккея;

**Каганович Сергей**, имеет бизнес-активы в предприятиях оптовой торговли запасными частями для складской техники и автомобилей. Входит в состав Совета директоров ЗАО «БСБ Банк». Знания и опыт Сергея Владимировича позволят расширить каналы продаж продукции аккумуляторного завода и увеличить потенциал использования финансовых инструментов для его развития. Широкий круг международных связей позволил уже сегодня провести переговоры с руководством европейского холдинга с целью привлечения иностранных инвестиций на предприятие.

В данный момент на предприятии подходит к концу экологический и финансовый аудит. В планах новой команды провести встречи с жителями ближайших населенных пунктов.

При возникновении вопросов по дальнейшей деятельности ООО «Аккумуляторный Альянс» можно обращаться по электронному адресу **info@brest-akb.by**.

ЗА ПРАХАДНОЙ

# «Гомсельмаш»: праца ў рэжыме нон-стоп

*Мінулая субота 23 траўня ў холдынгу "Гомсельмаш" была ўпершыню сёлета аб'яўлена працоўным днём. Гэта пацвердзіў журналісту "Народнай Волі" першы намеснік генеральнага дырэктара холдынга **Віктар Славашэвіч**.*



*"Мы пайшлі на такі крок, каб своечасова справіцца з выкананнем заказаў на выраб сельскагаспадарчай тэхнікі. Выплачваем падвоены заробак тым, хто заняты ў суботу на вытворчасці",* – тлумачыць Славашэвіч.

Паводле слоў першага намесніка генеральнага дырэктара, нягледзячы на пандэмію каранавіруса, удалося ажывіць дзелавую актыўнасць холдынга. За чатыры месяцы забяспечаны тэмп росту экспарту ў параўнанні з леташнім на 159 працэнтаў. Рэнтабельнасць продажаў склала 3 працэнты. Пасля зацяжных канікул і чатырохдзённага працоўнага тыдня на пачатку года холдынг выйшаў на рытмічную працу ў рэжыме нон-стоп.

Найбольшая колькасць заказаў на сельскагаспадарчую тэхніку па-ранейшаму паступіла на "Гомсельмаш" з Расіі і Казахстана. Ёсць замовы і з краін далёкага замежжа.

У план вытворчасці аб'яднання на май–ліпень уключана дадаткова 300 самаходных энерганасычаных машын. Гэта стала магчымым і ў звязку з ажыўленнем стасункаў з заходнімі партнёрамі, якія замарудзіліся з-за ўвядзення маштабнага каранціну ў краінах Заходняй Еўропы. Адтуль "Гомсельмаш" імпартуе, у прыватнасці, для сваёй тэхнікі падшыпнікі, рухавікі марак "Mercedes", "Volvo".

З канвеера, якія зараз запрацаваў з падвоенай сілай, сыходзяць збожжаўборачныя камбайны з класічнай барабаннай схемай абмалоту – КЗС-812, КЗС-10К, а таксама найбольш запатрабаваныя ў Беларусі і за яе межамі кормаўборачныя комплексы КВК-800 і КВК-8060, аснашчаныя рухавікамі розных вытворцаў.

Гэты мадэльны шэраг збожжа- і кормаўборачных камбайнаў гомельскія машынабудаўнікі дапоўнілі камплектам адаптараў, навешанымі і прычапнымі касілкамі, сучаснымі аграмашынамі для ўборкі бульбы, а таксама глебаапрацоўчай і пасяўной тэхнікай. Сяльмашаўцы наважаны ў хуткім часе перакрыць і страты, якія ўтварыліся на прадпрыемстве ў першым квартале ў сувязі з наяўнасцю крэдытаў і прастоямі прадпрыемства на пачатку года.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ПОСТАЦЬ

# Алесь БЯЛЯЦКІ:
# «У душы раба не можа нарадзіцца штосьці вартае…»



*Што такое чалавечае шчасце? Чым лепш займацца – палітыкай ці літаратурай? Якая роля кахання ў жыцці чалавека? Як можна адпачываць? Дзе лепей жыць? На гэтыя і іншыя пытанні ёсць адказы ў гутарцы **Эдуарда Акуліна** з вядомым грамадскім дзеячам, пяціразовым намінантам на Нобелеўскую прэмію міру **Алесем Бяляцкім**…*

**– Алесь, мы знаёмы з табой з 1979 года, калі паступілі на падрыхтоўчыя курсы Гомельскага дзяржаўнага “ўнівермага”, як любіў называць нашу alma mater Анатоль Сыс. Якое месца ў тваім жыцці займае вучоба ў тагачасным універсітэце? Што яна табе дала? Якія прыярытэты ты для сябе там вызначыў?**

– Мы паступілі ва ўніверсітэт сямнаццацігадовымі. І ні ты, ні я, здаецца, не памыліліся з выбарам прафесіі. Памятаеш, у тыя часы было прэстыжна трапіць у вайсковае вучылішча ці ў нейкі ўніверсітэт Масквы, Ленінграда. Мы ж абралі Гомель, беларускую філалогію (рускую нам навязалі ў давесак), каб вучыць беларускую мову, спазнаваць нашу родную літаратуру. Гэта быў свядомы выбар, які вызначыў наш лёс, які прынёс нам багата радасцяў, яркіх хвалюючых хвілін і шмат перажыванняў, драматычных нот у далейшым жыцці.

**– Якую падзею са студэнцкага жыцця ты лічыш для сябе знакавай, лёсавызначальнай?**

– Знаёмства ўлетку 1981 года з “майстроўцамі” ў Мінску, з Вінцуком і Ірынай Вячоркамі, Алесем Сушам, Сержуком Сокалавым-Воюшам… Гэта была чатырохгадзінная сустрэча, пасля якой я зразумеў, што не адзін, сам-насам, з гэтым вечна ныючым болем, з верадам Беларушчыны. Што ёсць такія ж, як я, маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія не плачуць і не скардзяцца на цяжкі беларускі лёс, не затаіліся па ўласных норах, як тхары, а ведаюць, што трэба рабіць. Гэтае знаёмства вызначыла ўсё маё наступнае жыццё.

**– У свой час ты актыўна займаўся палітыкай. А потым раптоўна сышоў з палітычнай сцэны Беларусі. Надышло расчараванне?**

– Я ўспрымаў палітычную дзейнасць як частку больш шырокай грамадскай дзейнасці. І калі была магчымасць дзеяць эфектыўна, працаваць на карысць незалежнай, дэмакратычнай Беларусі ў палітыцы, дык я гэта і рабіў – у шэрагах Беларускага Народнага Фронту, будучы дэпутатам Мінскага гарадскога Савета. Але пасля 1994 года магчымасці для палітычнай дзейнасці штогод імкліва звужаліся, пакуль не змялелі да мінімуму. З 1996 года болей часу пачала забіраць праваабарона, бо ў нас з’явіліся сотні людзей, якія былі рэпрэсаваны і патрабавалі дапамогі. Хутка стала зразумела, што намаганні ў праваабароне даюць больш плён для грамадства, таму з пачатку 2000-х я фактычна цалкам сышоў у грамадскі сектар, у абарону правоў чалавека.

**– Паводле беларускага заканадаўства ты не маеш права выбірацца на пасаду прэзідэнта краіны... З якой прычыны?**

– Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь я не маю права ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, бо нарадзіўся па-за межамі краіны. Першыя тры гады свайго жыцця (1962–1965 гг.) я пражыў з сям’ёй у Карэліі, на акупаваных СССР у 1940 годзе фінскіх землях. Затым мы вярнуліся ў Беларусь. Зараз я жартую ў размовах з сябрамі, што, можа, мне варта папрасіць фінскага грамадзянства і паспрабаваць стаць прэзідэнтам там…

Калі ж сур’ёзна, нават калі была б магчымасць удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі і нават калі б выбары не фальсіфікаваліся, як гэта адбываецца ў нас, ні ў якім выпадку – не. Каб прафесійна ўдзельнічаць у палітыцы, трэба быць, вобразна кажучы, палітычнай жывёлінай і мець скуру таўшчынёй, як у слана, каб магчы перажыць усе тыя інтрыгі, хітрыкі, кампрамісы і мэтазгоднасці, на якія вымушаны ісці палітыкі. Трэба заўсёды выбіраць паміж кепскім і яшчэ горшым. Камусьці гэта падабаецца, хтосьці бачыць за пастаяннымі палітычнымі інтрыгамі вышэйшыя мэты, іншыя – уласную карысць. Навошта мне гэта ўсё? Я значна лепей і ўпэўненей сябе адчуваю, калі маю магчымасць не крывадушнічаць, казаць і пісаць тое, што думаю.

**– У адным сваім інтэрв’ю ты заявіў, што “мы знаходзімся ў сітуацыі, калі рот заклеены скотчам”. Патлумач, калі ласка, чаму ты так лічыш? Здаецца, сёння пісьменнік можа пісаць пра што хоча і як хоча... Яму ніхто не забараняе выказвацца на любую тэму. Можа, сучасныя літаратары баяцца гаварыць праўду? Стараюцца захаваць лаяльнасць да існуючай улады? Асабліва гэта заўважна па дзейнасці маладых творцаў...**

– Казаў я гэта адносна свабоды слова і распаўсюджвання інфармацыі ў краіне. Але, безумоўна, тое ж датычыцца і беларускіх творцаў. Вядома, зараз не часы СССР, калі за асабістыя запісы ў дзённіку маглі запіхнуць у псіхушку, як літаратуразнаўцу Анатоля Сідарэвіча. І гэта трэба цаніць. Але калядзяржаўны літаратурны працэс: выданне кніжак у дзяржаўных выдавецтвах, літаратурныя рэдакцыі часопісаў, “ЛіМа”, выступленні на тэлебачанні ці радыё, вечарыны, літаратурныя выставы, кірмашы – гэта ўсё манапалізавана графаманамі, калялітаратурнымі кар’ерыстамі ці проста слабымі людзьмі, якім, па вялікім рахунку, начхаць на беларускую літаратуру. Значная частка з іх піша па-руску, успрымаюць сябе як акраец “русского мира” і не з’яўляюцца фактарам нашай літаратуры.

Але, дзякуй Богу, ёсць некалькі незалежных літаратурных часопісаў і альманахаў, усе самыя цікавыя літаратурныя навінкі сёння выдаюцца незалежнымі пісьменнікамі. Творцы, што не захацелі пайсці на ўслужэнне ўладзе, якая не бачыць у беларускай культуры, і літаратуры ў тым ліку, вартай каштоўнасці, на сёння задаюць у беларускай літаратуры тон. Гэтае супрацьстаянне доўжыцца ўжо чвэрць стагоддзя. Улады адабралі ў пісьменнікаў Дом літаратара, спынілі ўсялякую фінансавую падтрымку, паспрыялі расколу Саюза пісьменнікаў. Некаторыя творцы за актыўнае выказванне грамадскай пазіцыі прайшлі праз суды і турму. Гэта і Уладзімір Някляеў, і Уладзімір Арлоў, і Лявон Баршчэўскі ды іншыя. Але да гонару ніякія абмежаванні і рэпрэсіі не паставілі іх на калені.

Незалежная жыццёвая пазіцыя дае магчымасць быць незалежным і ў творчасці. У душы раба не можа нарадзіцца штосьці вартае. Закон панавання вольнага творчага духу – універсальны. Ён датычыцца і маладых пісьменнікаў.

**– Чым для цябе стала вязніца ў сэнсе жыццёвага досведу? Ці паўплывала яна на твой светапогляд, светаадчуванне, духоўныя памкненні?**

– Тры гады турмы былі асобным этапам жыцця, не падобным на іншыя. Не я першы з беларускіх літаратараў, хто праходзіў гэты шлях, але ў кожнага ён свой. Я апынуўся зусім у іншым асяродку, чым той, у якім жыў у Мінску. Простыя хлопцы, людзі часта са сваімі хібамі і вадамі. У маім атрадзе ў Бабруйскай калоніі са ста чалавек было каля сарака забойцаў. Яны тым не менш былі вельмі цікавыя для мяне. Найперш я бачыў у іх людзей. І да мяне яны ставіліся з павагай і разуменнем, апроч тых “актывістаў”, хто верна служыў адміністрацыі. Вось ад іх можна было чакаць усяго чаго заўгодна. Турма падобна на больш рэльефны і кантрасны злепак усёй краіны. Я ведаю Беларусь, таму ў маральным плане мне было няцяжка сядзець. Тым больш што я адчуваў магутную хвалю салідарнасці з волі, у тым ліку і ад беларускіх творцаў.

Турэмнае жыццё, вядома ж, паднявольнае, брыдкае і аскетычнае. Самае каштоўнае, што ты там маеш, – гэта тваё я. Скрозь – абмежаванні, правакацыі, несправядлівасць, але дух мой, дзякуючы маім сябрам, упэўненасці ва ўласнай праваце, лунаў высока над Бабруйскам і Бярэзінай…

**– Твая праваабарончая і літаратурная дзейнасць неаднойчы была ацэнена высокімі айчыннымі і міжнароднымі ўзнагародамі. Якая з іх і з якой прычыны найбольш важная для цябе?**

– Большасць гэтых прэмій ды іншых узнагарод была дадзена, калі я знаходзіўся ў турме, яны з’яўляюцца сімвалічным жэстам салідарнасці з палітычным вязнем, своеасаблівым пратэстам супраць несправядлівасці, якую ўчынілі беларускія ўлады. А таксама ясным сігналам, што беларуская дэмакратычная грамадскасць, міжнародная супольнасць пільна назіраюць за тым, што адбываецца ў нашай краіне з правамі чалавека, і ніколі не пагодзяцца з іх грубымі парушэннямі. Таму тут не мая заслуга, а, хутчэй, збег абставін.

Я вельмі цаню літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча, якую надаў мне Беларускі ПЭН-цэнтр у 2014 годзе за кнігу “Асьвечаныя Беларушчынай”, бо з вялікай павагай стаўлюся да Алеся Адамовіча. Важнай для мяне з’яўляецца прэмія імя Вацлава Гавела за заслугі ў абароне правоў чалавека Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, першым лаўрэатам якой я стаў у 2013 годзе. Я асабіста быў знаёмы з Вацлавам Гавелам.

Таксама важнае для мяне ганаровае грамадзянства Парыжа, якое мне далі ў 2012 годзе. Наконт апошняга – у мяне часам пытаюцца, а якія льготы я з гэтага маю. Я жартам адказваю, што мне ў давесак далі бясплатную кватэру ў Парыжы і бясплатны праезд у метро. І людзі вераць! Даводзіцца іх расчароўваць. У матэрыяльным плане гэта нічога не дае і з’яўляецца сімвалічным, але такім дарагім для мяне знакам салідарнасці з беларускім праваабаронцам.

Урэшце, усе гэтыя прэміі і адзнакі – спакуса для себялюбцаў, і лепей трымацца ад іх падалей.

**– Якое месца ў тваім жыцці займае каханне? Ці памятаеш, калі ты закахаўся першы раз?**

– Істотнае месца, як у жыцці амаль кожнага. Каханне напаўняе чалавека сэнсам існавання. Без яго наша жыццё было б прэсным і нецікавым.

Памятаю сваё першае захапленне. У другім класе (мне было восем гадоў) перада мной сядзела дзяўчынка Іра, ціхмяная такая, высакаватая, русявая, з доўгай шыяй. І вось я сяджу, гляджу на светлы завіток, пасмачку на яе патыліцы, на сінюю жылку, якая торгаецца пад яе празрыстай скурай на шыі, і раптам адчуваю да яе нейкае незразумелае пачуццё, якое агарнула мяне. Такое было ўпершыню. А так яшчэ ў дзіцячым садочку я дагнаў дзяўчынку, якая ўцякала ад мяне, і пацалаваў яе, але гэта ўсё было знарок, малпаванне дарослых.

**– Ваш шлюб з жонкай Наталляй прайшоў нялёгкае жыццёвае выпрабаванне на трываласць... Чыя большая заслуга ў тым, што і праз 33 гады сумеснага жыцця вы ўсё яшчэ разам?**

– У кожнага з нас у жыцці свае выпрабаванні. Не думаю, што нашы былі большыя ці складанейшыя, чым у іншых людзей. Сямейны гвалт, непавага адзін да аднаго, астылыя пачуцці, эгаізм, легкадумнасць і здрада, нежаданне чуць адзін аднаго, саступаць адзін аднаму – ці ж гэта не выпрабаванні? Мне падаецца, што ў наш час людзі становяцца ўсё больш эгацэнтрычнымі і самадастатковымі. Ім добра жыць адным. Яны не хочуць абцяжарваць сябе дадатковымі абавязкамі яшчэ перад кімсьці. Расплатай за гэта – духоўная адзінота.

**– Па сваёй грамадскай дзейнасці ты шмат вандруеш па свеце. Знаёмства з якой краінай уразіла цябе найбольш? Калі б была магчымасць выбіраць месца для жыхарства, ты выбраў бы…**

– Прыгадай, за якой жалезнай сцяной мы жылі ў СССР! Каб выехаць за мяжу, нават у краіны “сацыялістычнага лагера”, трэба было мець бездакорную біяграфію ў вачах парткамаў ды КДБ. Першы раз у жыцці я выехаў у Беласток, калі мне было ўжо 30 гадоў.

З таго часу я пабываў багата ў якіх краінах. Падчас гэтых паездак амаль уся ўвага і ўсе сілы аддаюцца працы. Часта проста не зважаеш на прыгажосць і адметнасць іншых гарадоў, краявідаў, людзей. Таму заўсёды радуешся, калі ёсць дзень, каб проста пахадзіць па горадзе ці наведаць музей.

Запомніліся назаўжды музеі Парыжа, Вены, Бруселя, Капенгагена, Стакгольма, жырафы і сланы ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, фіёрды і горы Нарвегіі, старыя кварталы Лісабона і Прагі, Правена, Гента і Бруге, неверагодна цёплы акіян на Кубе, лядовыя таросы на возеры Мічыган у Чыкага, альпійскія лугі ў Гармішы і цяньшаньскія каля Бішкека, велічныя касцёлы ў Страсбургу і Кёльне, старажытныя калізеі ў Рыме і Тарагоне, антычныя храмы ў Сіракузах. Урэшце, свет зараз адчынены для ўсіх, толькі былі б жаданне і магчымасці.

Але нідзе я не адчуваю сябе цалкам камфортна. Ужо праз некалькі дзён пачынаю сумаваць па Беларусі. Яшчэ ў Вільні, у Беластоку – так-сяк, а далей – ужо не. Маральна самы цяжкі час для мяне быў – гэта служба ў войску на Урале, калі паўтара года я мусіў жыць на чужыне. Усё ж я вельмі дамаседлівы, беларускі чалавек. А жыць я хацеў бы ў Гомелі. Нягледзячы на ягоную бясконцую правінцыйнасць, гэта мой горад па клімаце, па людзях, па рытме. Але гэта, мабыць, ужо ў другім жыцці.

**– Ведаю, што ты апантаны дачнік, а тваё хобі – кветкаводства. Адкуль у цябе, гарадскога хлопца, такая незвычайная цяга да зямлі?**

– Праваабаронцы, як і многія грамадскія актывісты, ужо чвэрць стагоддзя жывуць у стрэсавай сітуацыі. Увесь час штосьці адбываецца: кагосьці арыштоўваюць, судзяць, пастаянныя праблемы з правамі чалавека ў нашай краіне. Мы часта апынаемся на вастрыі падзей, падпадаем пад удар. Таму зямля для мяне – гэта мой псіхолаг і псіхатэрапеўт. Папораўшыся на выхадных, калі атрымліваецца, у градах, вяртаешся ў Мінск як новенькі. Зямля выцягвае ўсе трывогі і клопат, надае спакой і раўнавагу. Апроч усяго, ад садаводства я атрымліваю і эстэтычнае задавальненне. Мы працуем на зямлі не ад таго, што нам не хапае ежы. Зараз гэта – для душы.

Мяне ўражвае, што я магу ўдзельнічаць у стварэнні цуду, калі з маленькага зярнятка вырастае пяшчотная кветка ці вялізны, ледзь падняць, гарбуз. Ты назіраеш, як штогод аднаўляецца, узнікае, квітнее і марнее жыццё, бясконцы кругаварот, у які ўцягнуты і ўсе мы. Ты заўважаеш, якія птушкі лётаюць у цябе над галавой, якія хмары плывуць, якія вожыкі ўлетку ці зайцы ўзімку прыбягаюць да цябе на агарод. Чалавек – дробненькая часцінка прыроды, і зямля дае магчымасць адчуваць гэта напоўніцу.

**– Алесь, ты лічыш сябе шчаслівым чалавекам? Калі так, то што такое, па-твойму, чалавечае шчасце?**

– Шчасце – для кожнага яно ў нечым сваё. У любы момант яно можа разляцецца на дробныя аскепкі ці развеяцца, як дым, таму лепей не казаць гоп, пакуль не пераскочыў. Калі ж не паспееш, дык іншыя скажуць гэта за цябе.

**– Якая твая запаветная мара?**

– Убачыць Беларусь сапраўды еўрапейскай, дэмакратычнай краінай, у якой шанавалася б беларуская мова, культура, дзе правы чалавека ляжалі б у падмурку дзейнасці ўлад, дзе людзі былі б свабоднымі, жылі б у дастатку і нікому не хацелася б адсюль з’язджаць.

**P.S.** *Поўны тэкст гутаркі будзе змешчаны ў кнізе Эдуарда Акуліна “Падзяліцца поўняй”.*

ЗАПРАШЭННЕ

## Давайце дзяліцца радасцю!

Ад біблейскіх часін найважнейшым у жыцці кожнага чалавека было і застаецца тое, каб блізкія людзі дзяліліся з ім не толькі хлебам, а і небам… Аб тым, што натхняе на творчасць Таццяну Беланогую, Алеся Камоцкага, Кастуся Герашчанку, Андруся Такінданга, Таццяну Матафонаву і Алесю Сівохіну, ад чаго мацней б’ецца сэрца Кацярыны Ваданосавай, Насты Кудасавай, Валярыны Куставай, Людмілы Шчэрбы і Аксаны Данільчык, што з’яўляецца галоўным у жыцці Алеся Бяляцкага, Паўла Падкарытава, Алега Трусава, Глеба Лабадзенкі і Васіля Дранько-Майсюка, якія Музы насяляюць творчыя майстэрні Рыгора Сітніцы, Алеся Квяткоўскага і Эдварда Галустава, з чаго пачынаюцца песні гуртоў Naviband і “Тутэйшыя”, дзеля чаго жылі і тварылі Леанід Дайнека і Ніл Гілевіч, – новая кніга **Эдуарда АКУЛІНА “Падзяліцца поўняй”.**

Дзеля таго каб кніга як мага хутчэй пабачыла свет, усе жадаючыя могуць падпісацца на яе набыццё. Інтрыгоўная па змесце і непаўторная па форме кніга гутарак з велізарнай колькасцю ўнікальных фотаздымкаў, якая нараджалася на старонках часопіса “Верасень” цягам апошніх 10 гадоў, можа стаць вашай літаральна праз 10 дзён. Вас чакаюць 280 старонак якаснага, захапляльнага чытва! Ілюстрацыі да вокладкі і тытула кнігі выканаў выбітны віцебскі мастак Эдвард Галустаў. Ідэю вокладкі ўвасобіла таленавітая дызайнерка Яўгіння Багдановіч.

Спяшайцеся не спазніцца! Паспейце падпісацца! Спонсарскія прапановы чакаюцца і вітаюцца! Па пытаннях падпіскі на кнігу звяртайцеся (тэлефануйце або пішыце ў прыват) непасрэдна да Эдурда Акуліна (8-025 60-60-891 (A1)).

ВЕРДЫКТ

# Суд адхіліў скаргу Партыі БНФ на фарміраванне выбарчых камісій у Мінску

*Суддзя Мінскага гарадскога суда Сямак вынесла адмоўнае рашэнне па скарзе Партыі БНФ на фарміраванне тэрытарыяльных выбарчых камісій у Мінску.*

Тэкст рашэння апублікаваны на сайце судовай сістэмы. Рашэнне ўступіла ў законную сілу неадкладна пасля абвяшчэння і абскарджванню ў апеляцыйным парадку не падлягае.

Нагадаем, што ад Партыі БНФ у тэрытарыяльныя камісіі ў Мінску былі вылучаны тры чалавекі: **Зміцер Каспяровіч** і **Юрый Чавусаў** у Мінскую гарадскую камісію і **Андрэй Церашкоў** у Цэнтральную раённую камісію. Аднак нікога з іх у выбарчыя камісіі ўлады не ўключылі. Увогуле па ўсёй краіне ад апазіцыйных палітычных партый у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій уключылі толькі двух чалавек: прадстаўніка Партыі БНФ у Віцебскую абласную камісію і прадстаўніка БСДП “Грамада” у адну з раённых камісій. Усяго па краіне ў склад 153 тэрытарыяльных камісій увайшло 1989 чалавек. Такім чынам, апазіцыя складае 0,1 працэнт ад агульнай колькасці сябраў тэрытарыяльных выбарчых камісій.

Рашэнне Мінскага гарадскога суда каментуе Юрый Чавусаў, які прадстаўляў інтарэсы Партыі БНФ у працэсе разгляду справы:

– *Рашэнне суда абсалютна не адлюстроўвае таго, што было насамрэч выяўлена падчас судовага разбіральніцтва. Пры азнаямленні з матэрыяламі справы мы пабачылі, што ў склад тэрытарыяльных камісій увайшлі людзі, чыё вылучэнне не было аформлена належным чынам. Напрыклад, вылучэнцы Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці аформілі паперы на вылучэнне ў склад камісій нядбайна і без пазначэння неабходных дадзеных, таму ў Мінгарвыканкама не было законных падстаў на ўключэнне прадстаўнікоў гэтай структуры ў склад камісій. Таксама сур’ёзныя недахопы выявіліся ў паперах на вылучэнне прадстаўнікоў БРСМ, ГА “Белая Русь”, Беларускага саюза жанчын, Чырвонага Крыжа ды іншых праўладных псеўдаграмадскіх аб’яднанняў. Наадварот, пратаколы Партыі БНФ і Грамады былі аформлены бездакорна і мелі ўсе рэквізіты, якія патрабуюцца паводле Выбарчага кодэкса.*

*Аднак у рашэнні суда абсалютна не даецца ацэнка таму факту, што ў склад камісій патрапілі людзі, вылучэнне якіх не было аформлена належным чынам і якія не мелі права быць у камісіях. Замест гэтага мы маем рашэнне, напісанае пад капірку са стандартным абгрунтаваннем пра тое, што “суд не мае права абмяркоўваць пытанні аб перавагах аднаго кандыдата перад другім, так як гэта не ўваходзіць у кампетэнцыю суда”.*

*Паказальна, што прадстаўнікі Мінгарвыканкама як органа, рашэнне якога аспрэчвалася ў гэтым судовым працэсе, нават не з’явіліся на судовае пасяджэнне і разгляд справы адбываўся ў іх адсутнасць. Гэта яскрава сведчыць пра ролю судовай улады ў беларускай сістэме, дзе яна выконвае другасную функцыю прыкрыцця свавольства органаў выканаўчай улады. На жаль, у гэтай сістэме суды пазбаўлены паўнамоцтваў і не могуць разглядацца як орган, які ў стане аднавіць парушаныя правы суб’ектаў выбарчага працэсу.*

Скарга ў суд з патрабаваннем змянення складу тэрытарыяльных камісій пададзена таксама ў Брэсцкай вобласці: напрыклад, у суд Бярозаўскага раёна пададзена скарга на неўключэнне ў склад раённай выбарчай камісіі сябра Партыі БНФ Тамары Шчапёткінай.

Як адзначае намеснік старшыні Партыі БНФ **Зміцер Салошкін**, татальная зачыстка тэрытарыяльных камісій ад апазіцыі звязана з памкненнем не дапусціць знешняга кантролю за працэсам праверкі подпісаў, сабраных за вылучэнне кандыдатаў:

*“Колькасць прадстаўнікоў апазіцыі ў тэрытарыяльных камісіях на гэтых выбарах беспрэцэдэнтна малая. Суды не задавальняюць скаргаў на рашэнні пра фарміраванне камісій – адмовы ўжо атрымалі і Партыя БНФ, і АГП. Усё робіцца для таго, каб не дапусціць грамадскага кантролю не толькі за падлікам галасоў, але і за праверкай падпісных аркушаў. Відавочна, што цікаўнасці выбаршчыкаў да гэтых выбараў няма, а ва ўмовах пандэміі COVID-19 людзі папросту будуць пазбягаць залішніх сацыяльных кантактаў, у тым ліку дыстанцыравацца ад зборшчыкаў подпісаў. Таму будзе вялікі сумнеў у сапраўднасці подпісаў*”, – сказаў Зміцер Салошкін.

Як паведамляецца, суд Гомельскай вобласці таксама адхіліў скаргу мясцовай структуры АГП на рашэнне пра фарміраванне Гомельскай абласной выбарчай камісіі.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Наведвайце сваіх дзядоў, перш чым панесці да кладоў

71-гадовы жыхар Лідскага раёна тры месяцы расплачваўся за прадукты пры дапамозе карты, якая належала нябожчыку. Такім чынам яму ўдалося прысвоіць 640 рублёў.

Даўно ўжо справілі памінкі,
У нешматлікае радні
На шчоках высахлі слязінкі,
І чарадою беглі дні.
Нябожчыка харошым словам
Успаміналі сваякі:
Хоць ён не быў "мяшком грашовым",
Ды меў запас такі-сякі.
Але ці мала ўсё ж, ці многа
(Ва ўсякім выпадку не нуль)
Было ў запасах у старога,
Не разабраліся пакуль.
Кудысь прапала толькі карта,
З якой хадзіў у краму дзед.
Ды на яе зважаць не варта,
Грашовы ўклад не прападзе –
Так палічылі ўсе нашчадкі.
І засмуціліся, калі
Чакаў сюрпрыз у банку гадкі,
Бо з карты хтось здымаў рублі.
Была пачуццяў розных гама,
І нехта з іх усклікнуў нат:
– Няўжо на свеце тым таксама
Ёсць для кліентаў банкамат?!
Няўжо тутэйшымі грашыма
І там плаціў нябожчык-дзед?!
Аднак дарма гурма грашыла
На дзеда і на іншы свет.
Як падключыліся да справы
Міліцыя і следакі,
Пра "цуд" не гэтакі цікавы
Даведаліся сваякі.
Куды ж маглі падзецца грошы?
Нібы да жылы залатой,
Другі дзядуля, нехарошы,
Прыклаў руку да карты той.
З радні яго ніхто не ведаў.
А гэты зух-пенсіянер
Сцяжынку пратаптаў да дзеда
І змог уцерціся ў давер.
Ён ледзь не сябар лепшы самы!
(Радня забыла ўжо даўно.)
Дзед пасылаў яго да крамы
Па хлеб, а часам па віно.
Даваў ён карту – не купюры…
Як дзеда знеслі на клады,
Калі ўжо справілі хаўтуры,
Дык тую карту назаўжды
Сабе пакінуў памагаты:
Лічыў, што грошы заслужыў –
Да смерці не вылазіў з хаты,
А значыць, дзеду не чужы…
Са злодзея смяюцца людзі:
– У свеце гэтым лёс благі;
Яшчэ й вугельчыкамі будзе
У пекле аддаваць даўгі…

***

Хай для радні зламыснік гэткі
Паслужыць як жывы дакор:
Лепш самі б бегалі ў адведкі,
Пакуль дзядуля не памёр…

### На каго злуе сабака

Прыўладны доблесны "пісака",
Я нагадаць табе магу:
Не на ланцуг злуе сабака –
На тых, хто не на ланцугу…

### Шкада дзяцей

Мне сказаў надоечы ў двары
З горыччу адзін пенсіянер
(Зрэшты, я і сам ужо стары):
– Жытка нехарошая цяпер:
Узраслі амаль на два рублі
На гарэлку цэны – во бяда.
Мы сваё, як кажуць, папілі,
А дзяцей, па шчырасці, шкада…

### Чацвёрты

– Цяпер, калі мы ўжо сям'я,
Хачу ў цябе спытацца я:
Мужчын ці многа мела ты?
– Ты не паб'еш мяне затым?
– Ды не! Хвалюешся дарэм –
І пальцам не крану я!
– Сем…
– Я сёмы з гэтае кагорты?
– Не, ты не сёмы.
Ты – чацвёрты…

### Разлюбіў

Выказвае жанчына боль:
– Мяне ты не кахаеш больш!
– А з-за чаго ты так рашыла?
Я абдзяліў цябе грашыма?
Кахаю, як раней.
– Не веру!
Раней, прыходзячы ў кватэру,
Ты бег да шафы, на балкон,
Крычаў: "Дык дзе ж схаваўся ён?!"
Цяпер, вярнуўшыся дахаты,
Цвярозы ты або паддаты,
Да халадзільніка імкліва
Бяжыш
І там шукаеш піва…

МЕРКАВАННЕ

## …Каб пазбегнуць крытычнай сітуацыі

Каранавірусная пандэмія – прыдатная глеба для рэвалюцыі. Так выказаўся кіраўнік Сусветнай арганізацыі аховы здароўя Тэдрас Гебрэйсус яшчэ тады, калі мы, няпужаныя, нават не думалі, што гэта зараза перакрочыць дзяржаўныя межы Сінявокай. І вось мінула ўсяго некалькі месяцаў, і мы ўбачылі, якая гэта небяспека для краіны. У плане не толькі масавага захворвання людзей, але і абвастрэння грамадска-палітычнай сітуацыі. Арышт і пераслед блогераў, стыхійныя акцыі ў іх падтрымку, мала звязаныя з дзейснай апазіцыяй, – гэта своеасаблівы, вобразна кажучы, згустак навальнічных сімптомаў.

Пры гэтым усё часцей раздаюцца галасы медыкаў, якія шчыра выказваюцца пра складаную сітуацыю, – многія з іх ужо не баяцца згубіць працу. Зрэшты, для іх зараз згубіць працу – гэта ў нейкім сэнсе ўратавацца. Можна меркаваць, што пратэстных галасоў будзе ўсё больш і больш. Бо ўлада праз непрыняцце сур'ёзных каранцінных захадаў, праз дазвол на правядзенне масавых мерапрыемстваў, я лічу, правакуе новыя і новыя ўспышкі эпідэміі, памнажаючы нагрузку на медыкаў, якая і без таго велізарная. Не здзіўлюся, калі ў нейкі момант з іх боку ўспыхнуць пратэстныя акцыі.

Падчас каранавіруснай пандэміі многія людзі вырашылі самаізалявацца: выкарыстоўваючы камп'ютарныя тэхналогіі, працуюць аддалена, з'ехалі на лецішчы, перайшлі на дастаўку ежы з магазінаў спецыяльнымі брыгадамі. Але і ім, не выключана, прыйдзецца сутыкнуцца з тым, што рэсурс для такога існавання не бязмежны. Вымушаная добраахвотная самаізаляцыя можа расцягнуцца на нявызначаны тэрмін. І тады градус грамадска-палітычнай актыўнасці павысіцца.

Такім чынам, хмары могуць згушчацца. Каб не давесці сітуацыю да крытычнай кропкі, уладам, на мой погляд, трэба дзейнічаць больш адкрыта, больш акрыўна і абавязкова з улікам рэкамендацый той жа Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

**Раман АБРАМЧУК.**
*Мінск.*

УСМІХНІЦЕСЯ…

## Смяшынкі з Лявонавай скрынкі

Калі скласці цёмнае мінулае са светлым будучым, атрымліваецца шэрае сённяшняе.

***

Памятай: веды палавым шляхам не перадаюцца.

***

Скупы плаціць двойчы, тупы – тройчы, а дурны – усё жыццё.

***

Нікому не паставіць нас на калені! Мы ляжалі і будзем ляжаць.

***

Яны жылі шчасліва, пакуль не пачалі высвятляць, хто каго больш ашчасліviў.

***

Патанае "Тытанік". Адзін з пасажыраў, распіхваючы астатніх, рвецца на шлюпку.

Матрос:

– Сэр, пачакайце, на караблі яшчэ засталіся жанчыны!

– Ой, адчапіцеся, мне зараз не да сексу!

***

Парада ад цёці Соні: "Пакуль чакаеш свайго адзінага на ўсё жыццё мужчыну, можна калі-нікалі і замуж адлучыцца!"

***

– Як вы думаеце, аб'явы ў газетах даюць вынікі?

– Безумоўна! У панядзелак выйшла аб'ява, што мы шукаем вартаўніка, а ўжо ў аўторак нас абрабавалі.

**Падабраў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Я согласен с Громыко

Прочитав мемуарную статью легендарного министра иностранных дел Советского Союза Андрея Громыко «Двадцатый съезд», решил также высказаться о Никите Сергеевиче Хрущеве, которому, чувствуется, симпатизировал наш известный земляк.

Я профессиональный историк. Знаю, что ни один вождь России, а затем СССР не уходил без позора. Но, пожалуй, ни один руководитель советской эпохи не подвергается до сих пор такому остракизму, как Никита Хрущев. Многие приписывают ему все отрицательное в жизни государства.

Я хочу вкратце показать то положительное, что связано с этим, на мой взгляд, неординарным руководителем. Хрущев отверг принцип, существовавший до него в стране, – единовластие. Однако, сохранив авторитарную форму правления, стал первым советским руководителем, который играл роль непререкаемого лидера, не прибегая к массовым репрессиям. Даже его недруги подчеркивали человечность, доброту и искренность Никиты Сергеевича. Именно он превратил страну из тоталитарной – в авторитарную, а разница между этими понятиями огромная. Главное достижение Хрущева в том, что он изгнал из людских душ страх. Тем, кто не жил при Сталине, не понять, что это значит – бояться последствий буквально каждого своего шага, каждого своего слова. Именно это обстоятельство сделало возможным осуществить серьезный рывок в науке, экономике, культуре. В 1957 году – первый в мире запуск на орбиту искусственного спутника земли. В 1959 году – первый в мире атомный ледокол «Ленин». 1961 год – Гагарин, первый человек в мире полетел в космос.

Илья Эренбург охарактеризовал период правления Хрущева как оттепель. Конечно, сталинисты (бывшие и нынешние) не могли и не могут простить Никите Сергеевичу то, что он на XX съезде партии в 1956 году развенчал культ личности своего предшественника. Но Андрей Андреевич Громыко, как видите из его мемуаров, высоко оценил Хрущева как политического и государственного деятеля. Кстати, солидные историки считают, что XX съезд можно правомерно поставить в ряд с самыми значительными явлениями XX столетия.

Много упреков в адрес Никиты Сергеевича связано с тем, что он, дескать, отдал Украине Крым. Правда, забывают о том, что Крым не был отдан какой-то другой, зарубежной державе, а республике, которая входила в СССР.

Рассекречены документы Президиума ЦК КПСС и Политбюро ЦК Компартии Украины. И теперь известно, как решался этот вопрос. После окончания Отечественной войны пост Председателя Совета министров являлся главным в стране. И его занимал Сталин. После его смерти этот пост занял Георгий Маленков. И по сложившейся традиции Предсовмина вел и заседания Политбюро. Когда в Кремле стало ясно, что Российская Федерация не вытянет Крым, который находился в страшно запущенном состоянии, было решено передать его Украине. И предложение такое внес Маленков. Все члены Политбюро ЦК поддержали Георгия Максимилиановича. Исходили из того, что Крым фактически примыкал к Украине и только она могла поднять его



экономику. При этом необходимо помнить еще вот что: после войны крымские татары были выселены, а приезжие крестьяне по оргнабору, к примеру из Смоленской области, не ведали и не знали, как вести хозяйство в степных условиях.

Кстати, украинское руководство было против включения Крыма в состав УССР. Кому нужна была лишняя обуза? Но Москва приказала – и Киев вынужден был подчиниться.

Слухи о том, что Хрущев любил выпить, – выдумки, хотя и трезвенником он не был. Замечу: он был единственным членом Политбюро, который в годы войны находился на фронте, своими глазами видел страшные страдания, которые испытывал советский народ как на войне, так и вне ее. Он возглавлял Украину тогда, когда там в 1946 году разразился страшный голод. Многое сделал, чтобы улучшить ситуацию. Он постоянно находился среди людей. Сталин его и в шутку, и всерьез называл народником.

Большой упрек Хрущеву вменяется за то, что при нем страна (а это произошло в 1963 году) стала покупать за рубежом хлеб, хотя, дескать, до революции Россия кормила Европу. Да, царская империя экспортировала зерно, но это не значит, что его в государстве хватало. Дореволюционный министр финансов Вышнеградский как-то сказал: «Недоедим, но хлеб продадим».

Каких только кличек не удостоился Хрущев! До сих пор его называют «кукурузником». Действительно, после визита в 1959 году в Америку он стал горячим поклонником выращивания этой культуры. Но только ли он виноват, что на местах перегнули палку, начали сеять даже в Мурманской области?..

В любом случае именно при Никите Сергеевиче появился в достатке хлеб и по низкой цене. Решить проблему помогло освоение казахстанской целины.

Да, подпись Хрущева стоит под некоторыми «расстрельными» документами. И он этого не отрицал. Он был поставлен в такие обстоятельства, что не мог не поставить подпись. Громыко оценил эту ситуацию так: «Но разве это хотя бы в самой небольшой степени умаляет значение и уменьшает силу удара, который на XX съезде партии был нанесен по культу диктатора?»

Нынешние поклонники Сталина прощают ему кровь миллионов репрессированных и убитых. В то же время насмехаются над Хрущевым, который, как никто другой из вождей, был ближе к народу.

Нет в мире идеальной страны и никогда не будет. Не был идеальным государственным деятелем и Хрущев. Но нельзя рисовать его образ только в черных тонах.

**Александр ПЕТРУННИКОВ, историк.**
*г.Барановичи.*

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

## Не трэба здзіўляцца таму, што ў нас кожныя суткі выяўляюцца каля тысячы новых хворых на каранавірус

Паглядзіце, як людзі прытрымліваюцца рэкамендацый Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Многія, груба кажучы, плявалі на іх. На рынках – паўсюль натоўпы, рэдка хто ў масцы, вітаюцца за руку, абдымаюць адзін аднаго. Масавыя спартыўныя мерапрыемствы не адменены, вунь у Брэсце на стадыёне на матчы мясцовай футбольнай каманды з барысаўскім БАТЭ было больш за чатыры тысячы заўзятараў, якія ігнаравалі ўсялякія меры перасцярогі.

А што на вуліцах, у месцах масавага адпачынку! Як быццам ніякай эпідэміі няма – проста жудасна робіцца ад абыякавасці людзей.

Пры такіх рэаліях цяжка сказаць, калі ў нас сціхне каранавірусная эпідэмія. Мабыць, тады, калі ўсё насельніцтва перахварэе.

**Зінаіда ПАЛЬЧЭЎСКАЯ, чытачка "Народнай Волі".**

ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ

## След на земле

Уход на заслуженный отдых был хоть и вполне предсказуем, но обескуражил меня не на шутку. Как жить дальше, если любимая работа всегда была на первом месте? Но, как говорится, всему приходит конец. Сидеть без дела не в моих правилах, поэтому пришлось искать новое прибежище. И, поверьте, трудностей с этим у меня не было никогда. И дело не только в личном обаянии. Кадровики – народ особо поднаторевший. Если на прежней работе негативных отзывов о тебе не было – сложностей с трудоустройством не возникнет.

Пару лет прокантовался на полставки в Институте судебных экспертиз, потом меня разыскали и пригласили в штат Национального института образования. Трудиться там было интересно, увлекательно, в коллективе за год я стал своим человеком. И до сего времени был бы там востребован, если бы не урезали финансирование издательской деятельности.

Вскоре я подыскал равноценное место поближе к дому – в Минском институте управления…

Почему я так подробно фиксирую все свои «опорные точки» на вольных хлебах? Очень многие мои коллеги и знакомые сокрушаются по поводу трудоустройства после выхода на пенсию. Зря. Если вы в прошлой своей жизни не подличали, не портили кровь начальству и сослуживцам на рабочих местах, – опасаться вам не следует.

У китайцев есть великолепная поговорка: «Одни люди приходят в этот мир, чтобы оставить след на земле, а другие – чтобы наследить».

Когда меня взяли на должность старшего инспектора в Штаб МВД, я расценил этот как высокую оценку моих способностей и сразу же стал оправдывать доверие. Среди прочих непростых обязанностей в мозговом центре солидного ведомства мне поручили редактирование весьма специфического журнала «Оперативная и следственная работа». Внешний вид и структура издания были весьма неказистые, и я тут же приступил к их модернизации, хотя в прямые мои функциональные обязанности это совсем не входило. Сам спроектировал, согласовал с руководством, а потом и изготовил оригинальную трехцветную обложку, стал размещать материалы по тематике, снабжая их клишированными рубриками, заголовками, иллюстрациями. Да и над литературным оформлением материалов попотеть пришлось основательно, ведь до меня журнал готовил к печати простой опер. Заметили мои старания моментально, ну а уважение пришло само собой. Мой вариант журнала жив и поныне.

В Академии МВД у меня появилась другая страсть: в обеденный перерыв я тратил 15 минут на перекус, а 45 – на изготовление панно, которые я называл «картинками». Репродукции покупал в магазине, вырезал из календарей, журналов, заимствовал у сослуживцев. Древесно-стружечные заготовки находил даже среди отбросов. Обрезать их помогали столяры, кое-что подправлял сам. Инструментами тоже запасался автономно.

Кропотливое это занятие, тонкое, ювелирное, но глаза моих коллег всегда светились счастьем. Бывало, входит посетитель в наш кабинет, а на стене – десяток картинок. Рот от восторга до ушей,



Коллаж Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

глаза горят. Спрашиваю, что больше всего приглянулось на «вернисаже», и тут же дарю понравившуюся вещь. Безвозмездно. С улыбкой и чистым сердцем. Не преувеличиваю: в Академии не было, пожалуй, ни одного кабинета, где не красовалась бы сделанная мной картинка, взятая в филигранную рамочку, которую можно было повесить на стенку. И бумагу, и клей, и двойные гвозди, и бечевки – все покупал за свой счет. Дарил такие немудреные сувениры и самым близким друзьям, родственникам, награжденным, новоиспеченным папам и мамам, именинникам, просто случайным посетителям. Чем не след на земле?

А ведь параллельно я умудрялся издавать собственные книги, писать стихи и песни, дарить их близким людям. О том, как нестандартно я оформлял свои семейные фотоальбомы, мне тоже хотелось бы поведать читателям «Народной Воли» в дальнейшем. Сам удивляюсь, как это удается выкраивать время и силы на такое кропотливое, но дорогое сердцу хобби. Казалось бы, сколько тут пожить осталось, но ведь смена подрастает, так пусть и этот мой след на земле останется в светлой памяти потомков.

Я и теперь с упоением занимаюсь своими любимыми делами и на даче, и в городской квартире. Никак не могу понять тех пенсионеров, которые чуть ли не бравируют своим «заслуженным отдыхом», а если точнее – обыкновенным ничегонеделанием. Невозможно представить себе, как можно выдержать ежедневное рутинное созерцание пресловутого «ящика» да еще в сопровождении пива либо чего-то покрепче. А банальное лежание на диване без всяких поползновений сделать хоть что-то полезное? О книгах, журналах, газетах, сканвордах и речи быть не может. Чего греха таить, подчас и мне хочется просто отдохнуть, но не до такой же степени!

Конечно, главное мое увлечение – литературное творчество. Огромный потенциал тем, наблюдений, размышлений мне обеспечил богатый жизненный опыт, но постоянная занятость служебными проблемами не давала возможности реализовать его. Выйдя на пенсию, я с удовольствием перелопачиваю старые архивы, выискиваю записи об интересных людях, случаях из жизни, анализирую свои и чужие поступки и облекаю все это в эссе, рассказы, очерки, зарисовки…

Занятие, скажу я вам, невероятно увлекательное. Жаль только, что сложившиеся семейные обстоятельства не всегда позволяют развернуться во всю ширь. Более двадцати лет назад моя любимая жена Валентина перенесла тяжелейший геморрагический инсульт, а затем через три года – еще один. Чего пришлось хлебнуть – врагу не пожелаешь. Но сдаваться я и не помышляю. Благодарю Господа, что жена моя со мною, рядышком. Всё – от домашних мелочей до глобальных семейных проблем – лежит на моих плечах. Я не терплю ни незавершенных дел, ни грязной посуды в раковине, ни несвежего обеда, ни невыглаженного белья. При этом никакие радости жизни нам не чужды: мы очень любим гостей, следим за новостями, ходим на прогулки в любую погоду.

Раз в два года Валентине, инвалиду первой группы, дают бесплатную путевку в санаторий, а я еду с ней в качестве сопровождающего. И всегда бесплатно даю один, а то и два творческих вечера для отдыхающих. Людям всегда нравятся и мои стихи, и авторские песни, и анекдоты, и оригинальные случаи из жизни. Так зачем же лишать этого мимолетного удовольствия себя и других? Количество друзей и почитателей после таких импровизированных выступлений у меня значительно возрастает. А ведь провести полтора часа на сцене одному, да так, чтобы у зрителей рты были раскрыты от восхищения, – задача довольно сложная, требующая напряжения. Но, поверьте, игра стоит свеч! Ведь живем мы всего раз и должны оставить свой след на земле. Хорошенько запомните это, милые пенсионеры.

**Михаил ЗНАК, подполковник запаса, член Союза писателей Беларуси.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
26 МАЯ 2020 г.

## АБ АЎТАРЫ



*__Васіль Іванавіч Найдзін__ нарадзіўся 19 студзеня 1944 года ў вёсцы Бярозаўка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў сярэднюю школу №2 у г.п.Бялынічы, Мінскую школу кінамеханікаў. Працаваў кінамеханікам сельскай кінаперасоўкі ў Бялыніцкім раёне. Вайсковую службу (1963–1967) праходзіў на Чарнаморскім і Балтыйскім флатах.*

*З 1967 года працаваў у бялыніцкай раённай газеце «Зара камунізма». Завочна скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1973). Працаваў у часопісе «Вожык», газеце «Мінская праўда».*

*Першае гумарыстычнае апавяданне з'явілася на старонках газеты «На страже Балтики». Гумарэскі, сатырычня творы, апавяданні, навелы, эсэ друкаваліся на старонках штотыднёвіка «ЛіМ», часопісаў «Беларусь», «Вожык», «Работніца і сялянка», газет «Звязда», «Знамя юности» і інш.*

*Аўтар кніг «Мужчынскія сакрэты (1981), «Аддаю вам» (1984), «Кветка кактуса» (1992), «Анюціны вочкі» (2017), «Матрошкі з малаткамі» (2018), «Сустрэнемся на стадыёне» (2019), «Мільён руж» (2020). Асобныя творы перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую і польскую мовы, выконваліся артыстамі размоўнага жанру, гучалі па радыё ў перадачы «На вясёлай хвалі».*

## З-ПАД ПЯРА ГУМАРЫСТА

# МІЛЬЁН РУЖ



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Яна ўключыла магнітафон, які стаяў ля ложка, паправіла коўдру і заплюшчыла вочы…

Ала Пугачова, здаецца, была побач... Словы песні і музыка бралі за жывое.

«Ёсць жа на свеце мужчыны! Умеюць кахаць… Меў і домік свой, і дарагія карціны. І нічога для яе не пашкадаваў. Усё прадаў. І палотны, і жытло. І на ўсе грошы купіў кветак. Цэлае мора… Мільён руж! Ярка-чырвоных. Заставіў імі ўсю плошчу. Яна прачынаецца ранкам, падыходзіць да акна… Божа мой! Ці не сон гэта? А мабыць, з галавой што?.. Уся плошча ў кветках. Дзе ж той багач?! Хто тут дзівачыць?..

Бедны мастак! Вунь ён стаіць, небарака, пад акном і ледзь дыхае. Дрыжыць увесь… Добры, мілы чалавек! Якое трэба мець сэрца. Якія пачуцці! Незямныя... Мне б такога…»

Ён ляжаў ад яе на адлегласці якіх-небудзь аднаго-двух метраў. У сваёй сціплай аднапакаёвай кватэры. І, слухаючы песню, таксама разважаў.

«Ёсць жа прыдуркі на белым свеце!.. Усё прадаць: і дом, і рэчы. Ды якія рэчы – карціны! І дзеля чаго? Дзеля некалькіх мінут. Ну, мабыць, гадзін сустрэчы. З той актрысай. Невядома яшчэ, якога тэатра… А потым яна сядзе ў свой поезд. І той памчыць яе. У цемру… Назаўсёды!

Кусай, грызі цяпер свае локці. Можаш пабегчы і цалаваць рэйкі, па якіх поезд памчаў...

Жанчыны, каханне, ружы – гэта, вядома добра. Часам нават выдатна. Момантамі цудоўна... Але каб усё жыццё потым хадзіць галадранцам… Вы мне прабачце. Не мець у кішэні нават на піва. Не курыць дзеля эканоміі. Не дазваляць сабе многага з таго, што дазваляюць сучасныя мужчыны».

– Дурань! – зрабіў заключэнне ён і, прыўзняўшыся з падушкі, з усяе сілы бразнуў кулаком у сценку: – Глушы, суседка, сваю бандуру! Спаць трэба…

І ўжо ў поўнай цішы прамармытаў:

– Купіў бы лепш машыну. За свае палотны...

Па інерцыі працягнуў думку далей:

«...На «лексус» ці «мерседэс», напэўна, не хапіла б. А на «форд» які-небудзь – з каптуром. Ды яшчэ на добры офісны касцюм. Плюс гальштук баксаў за сто. Красоўкі… Абавязков імпартныя, рэдкай канструкцыі. З лямпачкамі на пятках. Крочыш у іх, а там шчоўк-шчоўк – гарацъ па чарзе пяткі. Не трэба і флікеры. Шчоўк-шчоўк... Здаецца, і ў галаве зашчоўкала. Здурнець можна. Трэба спаць...»

Ён з галавой залез пад коўдру. Але сон чамусьці не браў.

Павярнуўся раз, другі. Паспрабаваў ні аб чым не думаць, не разважаць – не атрымоўвалася. Мастак са сваімі ружамі сядзеў у галаве надзейна.

Праз гадзіну ўключыў святло. Доўга глядзеў у белую столь. Не дапамагло. Далічыў да тысячы. Пагнаў назад…

Калі дайшоў да нуля, пачаў прыкідваць, колькі трэба руж, каб заставіць імі плошчу сярэдніх памераў. Перавёў усё ў рублі. Потым у долары. Нават у еўра. Атрымлівалася многа...

Па вушы закаханы ў актрысу мастак стаў яшчэ бліжэй.

«Відаць, сапраўды прыгожая была. Твар, фігура, прычоска… Але ж каб дом загнаць! Прыспічыла…

Суседкі не было, ці што?.. Да яе і падкалоўся б. Падкаціўся культурна. З двух дамоў адзін бы тады і прадавалі. І не за рублі, а за валюту. Зараз многае дазволена. Мазгаўнёй толькі варушы. А дзве галавы таксама лепш, чым адна. Тым больш жаночая».

Думка пра суседку заскочыла ў яго галаву неяк непрыкметна. Больш за тое – яна расла, набірала сілу…

«Здрасце!» – «Здрасце, здрасце…» – «На работу?» – «А куды нам яшчэ?» – «Жадаю поспехаў!» – «Вам таксама…»

Тры гады на адным паверсе жыць! Дзверы ў дзверы, праз сценку. І добра не прыгледзецца. Не пазнаёміцца. Ні аб чым не пагаварыць. Не даведацца, не дапамагчы… Ці ж нельга было спытацца пра краны? Зайсці падрэгуляваць тэлевізар. Не заўсёды ж там была рэзкасць... Тысячу прычын можна было знайсці, каб укляпацца.. І загаварыла б, запрасіла… У рэшце рэшт, не так і многа тых актрыс. Усім не хопіць. Кажуць, і з норавам яны. Ды што гэта за жыццё з актрысай! Сёння яна з табой, а заўтра – чорт ведае дзе і з кім. А тут – побач, надзейна…

Стаўшы ў ложку на калені, ён прыклаў вуха да сценкі.

Мёртвая цішыня стаяла наўкола.

Спалі дамы, вуліцы, увесь горад…

«Так і з глузду з'ехаць можна. А калі – клін клінам?..»

Ён зрабіў глыбокі ўдых:

– «На не-дель-ку-у-у, до втор-р-ро-го-о, я уеду-у в Комар-р-ро-во-о!..»

Гэта былі не спевы. Гэта быў крык халасцяцкай душы.

– Каб ты адтуль не вярнуўся! – пажадалі зверху.

– І на законы пляваць яны хацелі. Нічога не баяцца. Хуліганнё! – прачнуліся і пачалі абурацца жыльцы злева. – Да раніцы гарэліцу жлукцяць. І яшчэ спяваюць...

– Канчайце тэатр! – пастукалі нечым цяжкім знізу. – У нас жа дом панэльны. Рэшата! Усё чутно…

А з правага боку маўчалі. Ніводнага сігналу. Хоць бы слабага. Ні слоў, ні музыкі… Адна цішыня...

«І навошта было так палохаць суседку?.. «На не-дельку-у, до второго-о…» Ды ты хоць на год едзь! Ці на два... У Камарова, Бабруйск, Вільнюс, нават Парыж – ёй адзін чорт. Пашукай прыгод. Няхай мытнікі табой зоймуцца. Можаш і не вярнуцца… Трэба тэрмінова рабіць нешта іншае!».

Позірк яго забегаў па пакоі.

«Ніводнай карціны! Затое гадзіннік антыкварны маю. Многія дзесяцігоддзі чыкае-бомкае. Маятнік – з паўметра. Аць-два, аць-два... І не зморыцца. У прадзеда сілу пераняў. Той у грамадзянскую, бацька казаў, шашкай махаў – будзь здароў! Галовы белякоў ляцелі, што качаны капусты. За гэта ад камандарма Першай коннай і падарунак атрымаў. Як дадатак да нейкай узнагароды. Мог бы, відаць, і карціну ці нават дзве даць... Але згадзіцца і гадзіннік. У антыкварным магазіне з рукамі адарвуць… Вугал у пакоі вызваліцца, больш прасторы будзе. Не век жа аднаму жыць... За гадзіннікам турыстычны матрац валяецца – імпартны, надзіманы. Разам з насосам трэба загнаць. І гітара вісіць, быццам на шыбеніцы. Каму і для каго іграць-брынькаць?! Таксама прадаваць трэба. А ўслед за ёй і грушу баксёрскую, 40 кілаграмаў. Данясу як-небудзь. Плюс гантэль разборная. І яшчэ сёе-тое... Вунь рогі аленя з калідора тырчаць, пылюгу збіраюць...

А на балконе колькі рэчаў! «Бусел»-веласіпед іржавее, лыжы, канькі… Ды тут дабра – у легкавік не ўтопчаш. «МАЗ» закажу-выпішу. Аб'явы даваць няма ўжо часу. Хто-небудзь можа апярэдзіць. Наконт суседкі. Таму заўтра бяром на прыцэл спачатку камісійныя і антыкварныя магазіны, а драбязу – на рынак.

Каб ружы не спатрэбіліся, ці ж я прадаваў бы ўсё гэта барахло? Такім спехам... Мільён руж за выручку купіць не ўдасца, факт, але букетаў на пяцьдзясят ці нават на сто наскрабём. Гледзячы, якія ружы… На кожным кроку прадаюць – і камерсанты, і бабулькі. Дарагавата, праўда. Але ж і гадзіннік чаго варты... Бомкае вунь жаласліва, не хоча развітвацца са мной. За ружы – не шкада…»

Ад думак пра ружы сон стаў падкрадвацца сам. Салодкі, цёплы і мяккі…

«Які можа быць сон! Спакуем спачатку рэчы, каб ранкам адразу – за справу. Сваё прадаём, не чужое. Не спекулянт, не прахіндзей… Хоць і не мастак, але ведаю навошта прырода стварыла ружы! Без іх іншым разам чалавек, як без рук. І без ног. Без вачэй і вушэй...»

І перад тым, як узяцца за работу, ён яшчэ раз стаў у ложку на калені і шчыльна прыклаў вуха да сценкі…

# ЛІМОНЧЫК ДА ШАМПАНСКАГА

*(Да пытання аб сціпласці)*

– Людцы добрыя, на дапамогу! Разабрацца тэрмінова трэба. Зноў мяне ледзь у галёш не пасадзілі. А ўсё з-за шчырасці! Характару... Ён у мяне такі: калі дзе што – рэжу ў вочы праўдуматку. Крывіць душой не магу. Але мяркуйце лепш самі.

Іван Пятровіч, загадчык нашага аддзела, запрашае нядаўна да сябе ў госці. Ад чыстага сэрца радуюся. І жонка, бачу, задаволена. Нават размову заводзіць наконт таго, што не часта цяпер людзі клічуць адзін аднаго ў госці. Асабліва ў гэты няпросты трывожны час, калі ненажэрны, немаведама дзе і кім «каранаваны» вірус працягвае наводзіць на нашай гаротнай планеце пад назвай Зямля свае парадкі.

Але ж мы хочам жыць па-чалавечы. І ў госці хадзіць. Ну не па душы нам гэта самаізаляцыя, адзінота. Тым больш мы добра ведаем, што такое этыкет, удзячнасць, сціпласць. І ўсё астатняе. Добрае і разумнае.

Так што ў кватэру Івана Пятровіча ўвайшоў я з самымі найлепшымі думкамі і намерамі. А там ужо віншаванні, жарты – усё, як трэба. Неўзабаве за стол селі. Весялосці, бадзёрасці – хоць адбаўляй... Пра той вірус – ні слова, ні паўслова. Бо прысутныя – людзі кемлівые, выхаваныя. Адным словам – культурныя.

І вось бачу – з сонечнай усмешкай на твары гаспадыня дома нясе з халадзільніка шампанскае. Іван Пятровіч – цоп! – за бутэльку. Я таксама дацягнуўся і памацаў цёмна-зялёны яе шкляны бок. «Папалася, – думаю, – мая родненькая...» А каб не забыцца, адразу кажу:

– Пераахалоджана! 3–4 градусы будзе. А трэба ж 7–10. Па правілах...

Мама родная! Сярдзіта зыркаюць усе на мяне. Сэрцам адчуваю – вось-вось накінуцца. З'ядуць! Але тут адзін з гасцей засмяяўся. Госці, як па камандзе, супакоіліся. Знайшоў сілы і я змоўчаць.

Іван Пятровіч кажа ветліва ў мой адрас: «Прабачце, бывае. Нічога страшнага...» І пры гэтым трасе злёгку бутэльку. І за драцяны вузялок, што на «залатой» галоўцы, круціць. Корак як дасць у столь! Затым у маю талерку. І пад стол. Лапаціць, скача там, пакуль у чыіхсьці нагах не заблытаўся. Смех, тосты. Усе за фужэры – і да бутэлькі. А там каму шампанскае, а каму – адна пена. І мне апошняя. Да слёз шкада. Не ўстрымаўся я.



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

– Іван Пятровіч! – кажу. – Цяпер вы прабачце. Бутэльку з шампанскім зусім не трэба было боўтаць. Занадта многа выдзелена вуглекіслаты, што ўскладніла разліў віна ў бакалы і скараціла час яго іскрыстасці. І корак павінен быў застацца ў вас у руцэ. Наогул, «стральбу» з бутэлек не прынята лічыць прыкметай добрага тону...

Усе зноў на мяне ўтаропіліся. Незнаёмы мужчына, кілаграмаў так на 115, першы рот раскрыў на ўсю магутнасць:

– Я, – кажа, – таксама летась запрасіў да сябе ў госці адно парася. І цяпер шкадую...

– Цікава, цікава... – устрапянулася, як заўсёды ў такіх выпадках, Мар'я Пятроўна, супрацоўніца нашага аддзела.

– Цікава, ды не зусім! – абвёў усіх пагардлівым позіркам чалавек вялікай вагі і ўнушальных памераў. – Памятаю, шампанскага набухтэрыў я таму госцю пад самую завязку, а ён: «Мне б цукерачку шакаладную». Я яму – лімончык пад нос! Жонка парася смажанага падсоўвае. А нехта вазьмі дый ляпні, што лапцямі па цымбалах: такому, маўляў, шампанскае толькі парасём і заядаць! І што вы думаеце? Як ветрам здзьмула...

«Не здзьме!» – сяджу і сам сябе супакойваю. А заадно прыпамінаю… Дзе гэта бачна, людцы добрыя, каб шампанскае свінінай заядалі! А хоць бы ўзяць тэмпературу тонкага напітку...

Тут нехта і папёр на мяне:

– Пераахалоджана?! Вам налілі – глытайце! Сумлення ні на грам...

Родная жонка пад бокам мямліць:

– Ой, зганьбіў, зноў паказаў сябе… Як цяпер людзям у вочы глядзець?..

«Пара, – думаю, – зматваць вуды».

Схапіў я паліто і шапку і – на двор. Няўжо, думаю, што пераблытаў.

Дома – адразу да пісьмовага стала. І за кнігу «Кактэйлі, пуншы, віны і іншыя напіткі ў хатніх умовах». Зноў сваімі ўласнымі вачыма чытаю. На 23 старонцы:

«Іскрыстыя віны належыць ахалоджваць да 7–10 градусаў... Ставіць шампанскае ў халадзільнік не рэкамендуецца, паколькі тэмпература там звычайна ніжэйшая і яно, пераахаладзіўшыся, страціць тонкасць свайго букета... Не варта ўзбоўтваць бутэльку з шампанскім. Гэта прывядзе да занадта бурнага выдзялення вуглекіслаты, ускладніць разліў у бакалы і скароціць час іскрыстасці. Адкаркоўваючы шампанскае, спачатку трэба вызваліць корак ад утрымліваючай яго драцяной сеткі (мюзле), затым, нахіліўшы бутэльку і ўтрымліваючы яе пад вуглом 45 градусаў, асцярожна выцягнуць корак або прытрымаць яго, калі ён сам выпіхваецца газам. Корак павінен застацца ў руцэ. «Стральбу» з бутэлек не прынята лічыць прыкметай добрага тону».

«А-а, з'елі!» – ледзь не закрычаў я ад радасці. Але ж мой крык, думаю, ніхто з гасцей не пачуе. Таму і ўзяўся за пяро. Усё, як было, напісаў. Бо характар у мяне прамы. Калі дзе бачу штонебудзь такое – рэжу ў вочы праўду-матку!

Дык ці ж я вінаваты?

І яшчэ дазвольце пару слоў. Па тэме дня – наконт таго хітруна-ненажэрлу віруса. Тысячам, мільёнам людзей нагнаў ён жахустраху. І што насцярожвае: многія пацягнуліся, проста кажучы, да самых хуткіх і надзейных «сродкаў-лекаў», якія вымяраюцца градусамі. І чым іх больш, тым лягчэй, маўляў, дыхаецца, менш кашляецца і галоўнае – менш пра дурное-сумнае думаецца. Таму прадаўцы магазінаў радуюцца не нарадуюцца: найпершы тавар зараз гарэліца і каньяк. Сапраўдныя грошы! А вінцо – дзіва-дзіўнае, з-за сваёй «слабасці» зусім здало свае пазіцыі. Не гаворачы ўжо пра шампанскае.

А я вельмі хачу, вельмі жадаю, каб у першую чаргу яно нас радавала, настрой уздымала, сем'і, калектывы яднала.

Уздымем жа… не, не шклянкі цяжкія гранёныя, а які-небудзь іншы посуд – лепш з крышталю бакалы, – напоўненыя шампанскім.

Чокнуліся!

Прабачце… Маленькая далікатная парада начальству:

– Паважаны Іван Іванавіч! Вы чамусьці у самым канцы стала месца выбралі, як заўжды – надалей ад народа… Не забудзьцеся маску зняць, калі піць па навуцы выраблены і правільна запенены рэдкага смаку напітак адважыцеся.

Моцнага здароўіца ўсім, спадары таварышы! І настрою сонечнага – новая ж вясна на зямлі…

## ШАШКІ

### Новыя творы вядомага адэсіта

Прапануем самастойна знайсці выйгрыш за белых у праблемах вядомага адэскага кампазітара **Сяргея Губачкіна**.

№1 **Белыя**: a5, b4, c7, d6, e7, f6, h2 (7).

**Чорныя**: b2, b6, e3, d2, f4, g3 (6).

№2 **Белыя**: b6, c7, d6, e5, f6, h6 (6).

**Чорныя**: a7, b2, b4, c3, d2, d4 (6).



№3 *(гл. дыяграму)* **Белыя**: b4, b6, c7, d6, e7, f6, h2 (7).

**Чорныя**: a5, b2, c3, d2, f4, f8, g3, g5, h4 (9).

№4 **Белыя**: a5, b4, c7, d6, e7, f6, h4, h6 (8).

**Чорныя**: b2, c3, d2, e3, f4, f8, g5 (7).

№5 **Белыя**: a5, b2, c3, d2, e5, f2, g3, g7 (8).

**Чорныя**: b4, c7, d4, d6, f4, f6, h2, h8 (8).

### Школа кампазіцыі

Пазіцыі **Мікалая Ляшкевіча** («Народная Воля» за 12 мая 2020 года) прывялі латвійскага майстра **Генадзя Андрэева** да наступных ідэй, якія можна лічыць самастойнымі кампазіцыямі.

Па №4:

**Белыя**: b2, b4, c3, c5, g3, g5, h2 (7).

**Чорныя**: a5, b8, d6, d8, e5, e7, g7 (7).

h6(gf6), a3(bc7), f4, f4(g5), g7 d4, f8, a5(b6), c7, b4 x.

Адзін з некампазіцыйных варыянтаў гэтай праблемы вядучы рубрыкі прапануе паказаць такім чынам:

**Белыя**: a3, b4, b6, c3, c5, g1 (6).

**Чорныя**: c7, d6, d8, e5, e7, g3, g5 (7).

h2, h6(f4), g7(g3), d4, f8, h2(c3), b4, d6 x.

Па №5:

**Белыя**: a1, e1, f2, f6, g1, g5, g7 (7).

**Чорныя**: b8, c3, d2, d4, d6, d8, g3, h4 (8).

b2, c7(b6**A**), h6, f2, h8, h2(c5), g7(d4), f8(c7), b8(c3), b4, d6(b4), a3(g3), c5(h2, )g1 x. **A**(d6), h6, f2, h8, h2(c5), g7(d4), h8(e3), f4, e5 x.

І нарэшце мадэрнізацыя №3:

**Белыя**: b4, b6, c1, c3, c5, c7, d2, d4, d6, e7 (10).

**Чорныя**: a5, a7, b8, d8, f4, f6, g3, g5, g7, h4 (10).

e3, e1, f8, g5(c5), ed2, c3, e7, f2x.

Украінскі аўтар **Валерый Кручкоў** даслаў такую праблему-100:

№6 **Белыя**: 18, 19, 20, 24, 28, 29, 40, 47, 50 (9).

**Чорныя**: 9, 10, 15, 21, 31, 35, 37, 39, 43 (9)

44, 19-14, 3, 36, 41, 5 x.

Поўнае пабочнае рашэнне: 12, 19-14, 24, 7, 41, 1, 48 x.

Аўтарская ідэя апрацоўваецца так:

**Белыя**: 13, 14, 18, 19, 20, 22, 30, 34, 40, 46 (10).

**Чорныя**: 4, 21, 25, 27, 31, 33, 37, 39, 43 (9).

13-9, 13, 3(30a), 26, 41, 5 x. a(14), 35 x.

З пабочнага рашэння у вядучага рубрыкі атрымалася такая кампазіцыя:

**Белыя**: 6, 11, 17, 18, 25, 27, 31, 37, 45 (9).

**Чорныя**: 1, 9, 13, 15, 26, 29, 39, 43, 44 (9).

32, 20, 32, 20, 7, 1, 48(44). 40, 34(30), 25, 39, 50 x.

### Міжнародныя шашкі

Кампазіцыі ў міжнародныя шашкі прапануе мінчанін **Іван Наўроцкі**. У пазіцыях №№8–11 выйгрыш белых знайдзіце самастойна.

№7 **Белыя** *(гл. дыяграму)*: 16, 22, 24, 28, 29, 30, 32, 34, 38 (9).

**Чорныя**: 6, 8, 9, 13, 15, 18, 19, 23, 37, 41 (10).

№8 **Белыя**: 11, 18, 19, 22, 23, 24, 30, 31 (8).

**Чорныя**: 2, 8, 9, 10, 27, 35, 36, 39, 40 (9).

№9 **Белыя**: 17, 18, 21, 22, 28, 29, 30, 38, 49 (9).

**Чорныя**: 7, 9, 10, 19, 20, 26, 31, 40, 41 (9).

№10 **Белыя**: 12, 17, 18, 22, 29, 33, 34, 39, 40, 42, 48, 50 (12).

**Чорныя**: 9, 10, 13, 16, 25, 27, 28, 31, 35, 37, 41 (12).

24, 19, 30, 48:39, 34, 39, 11, 1, 36, 35 x.

№11 **Белыя**: 6, 11, 15, 18, 22, 26, 29, 31, 45, 48, 50 (11).

**Чорныя**: 1, 19, 20, 24, 27, 30, 33, 35, 36, 38, 39, 43 (12).

13, 44, 28, 4, 40, 7, 21, 17, 17 x.

### Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 29 красавіка 2020 года.

**№1** – ed8, a7(c5),c1,b8(e3), h6(b2), e5x.

**№2** – e5(fd6a), e7, f8x.a(bd6), c7, b8(e3), a7 x.

**№3** – fg7, e7, c5,c7, hg5, f6, g1x.

**№4** – a5, c5, c5, g5, e7, d2, c7 x.

**№5** – h6(f2), g3, f8(d2), c5, e7, g5, f4, c5(b4A), a3(c7), b4(d6), c5,b2 x. A(a7),b2x.

**№6** – d8, c3, fg3(f2a), e1, eg3, c1(f2), g3, f4(g5), h6, e3(h2), g1 x. a(e3), e5, ef6, d6 x.

**№7** – b8, cg3(f4a), h2, g7, g5, d2, e3 x. a(c3), a5, g3/h2 x.

**№13** – 2, 13, 49 x.

**№14** – 19, 39, 8, 2, 28, 20, 5 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»*** або на электронны адрас ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 25.05.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 21 611 экз. Заказ № 1526.